ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ






ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІС ЦЭНТРАЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

№ 11 (25)

**ТРЭЦІ ГОД ВЫДАНЬНЯ**

**ЛІСТАПАД 1930 г.**

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

Штомесячны часопіс прэзыдыуму ЦВК БССР па савецкім будаўніцтве

№ 11 (25) Лістапад 1930 г. № 11 (25)


**Згуртаванымі шэрагамі рабочых, батракоў, калгасьнікаў, беднякоў і серадпякоў нанесьці руйнуючы ўдар па кулацтву і яго агэнтах—правых апартуністых. Не дапусьцім у саветы клясавых ворагаў. Забясьпечым органы дыктатуры пралетарыяту клясава-вытрыманымі кадрамі.**

## Да падрыхтоўкі чарговых перавыбараў саветаў.

Важнейшая масавая палітычная кампанія—перавыбары саветаў у гэтым годзе будзе праводзіцца ў асаблівых умовах, ва ўмовах разгорнутага наступленьня сацыялізму па ўсім фронце.

Унутры краіны мы наглядаем нячуваны рост сацыялістычнага будаўніцтва. Пасьпяхова выконваецца пяцігадовы плян разьвіцьця народнай гаспадаркі. Мы маем ня толькі бязупыннае выкананьне пляну, але і значнае перавыкананьне яго ў паасобных галінах будаўніцтва. Вызначаныя паводле пляну вялікія тэмпы будаўніцтва, дзякуючы **правільнаму кіраўніцтву камуністычнай партыі і энтузіязму рабочае клясы**, у працэсе работы ўзьняты на яшчэ большую вышыню, і ў далейшым нарастаюць усё больш і больш. Мы маем ужо амаль як агульнае зьявішча—**сустрэчныя** прамфінпляны. Усё вышэй узьнімаецца хваля сярод асноўнай масы сялянства **за калектывізацыю сельскай** гаспадаркі. Усё больш і больш павялічваецца сьвядомасьць і палітычная актыўнасьць рабочае клясы. Разгорнутае сацыялістычнае будаўніцтва ўжо амаль цалкам ліквідавала беспрацоўе. Выхоўваюцца новыя кадры прамысловых рабочых.

Посьпехі Саюзу ССР на ўсіх франтох палітычнага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва выклікаюць шалёную нянавісьць з боку ўсіх ворагаў савецкай улады да нашай краіны.

Капіталістычныя дзяржавы, якія зараз **знаходзяцца ў пэрыядзе заняпаду**, перажываюць эканамічны крызіс і маюць у сябе ўздым рэвалюцыйнага руху, шукаюць выхаду з свайго становішча ў вайне з Саюзам ССР. У апошнія два гады з іх боку ўжываліся ўсе спробы ўцягнуць Савецкі Саюз у вайну, але ўсе іх правакацыі разьбіліся аб цьвёрдую палітыку міру Савецкага Ураду. СССР адказваў і адказвае на „происки“ імпэрыялістых яшчэ больш напружанай працай па будаўніцтву сацыялізму.

Перавыбары саветаў будуць праходзіць ва ўмовах **абвостранай клясавай барацьбы** ўнутры краіны. Капіталістычныя элемэнты, асабліва кулацтва, якое аказвае ўпартае супраціўленьне сацыялістычнаму наступленьню, будзе імкнуцца пралезьці ў саветы і дэзарганізаваць іх работу. Правадзімая КП(б) палітыка абмежаваньня і выцісканьня кулацтва, палітыка ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі, падарвала эканамічную моц кулака. Ад-

нак, кулак яшчэ не дабіты і ў гэту выбарчую кампанію **ён спрабуе ўсямерна скарыстаць слабасьці** на мясцох, ён пастараецца пашырыць хлусьлівыя выдумкі, весьці варожую агітацыю супроць калгасаў, і ў клясавай барацьбе ня спыніцца перад простым тэрорам: падпаламі, шкодніцтвам і забойствам паасобных актывістых. Гэта трэба мець на ўвазе.

Вось тыя агульныя абставіны, у якіх будзе праводзіцца чарговая кампанія перавыбараў саветаў. Усе гэтыя акалічнасьці ўнутранага і міжнароднага становішча павінны быць цалкам улічаны. Працоўнае насельніцтва павінна ведаць аб усіх дасягненьнях сацыялістычнага будаўніцтва, аб усіх труднасьцях нашага росту.

Арганізацыйна-масавая работа вакол справаздачна-перавыбарчай кампаніі павінна яшчэ раз паказаць **поўны правал** усіх права-апартуністычных элемэнтаў. **Трэба даць рашучы адпор** усякім спробам правых апартуністых і іх саюзьнікаў „зьлева“ спэкуляваць на часовых труднасьцях нашага гіганцкага будаўніцтва.

Нельга забываць, што перавыбары будуць праходзіць у момант ажыцьцяўленьня **ўдарнага** кварталу перад трэцім **рашаючым** годам. У гэтым ударным квартале прамысловасьць павінна даць звыш 40 проц. росту. Аб усім гэтым трэба па-бальшавіцку расказаць на справаздачных сходах выбаршчыкаў гораду і вёскі, з тым, **каб мабілізаваць найшырэйшыя масы працоўных** на барацьбу і перамогу труднасьцяй сацыялістычнага росту.

Аднэй з важнейшых задач кампаніі зьяўляецца арганізаванасьць і згуртаванасьць вакол перавыбараў рабочых мас і ўсіх працоўных. Перавыбарчая кампанія адрозьніваецца ад іншых кампаній тым, што яна ахапляе пагалоўна ўсю масу працоўных. Тую актыўнасьць працоўных, якая выяўляецца ў часе перавыбараў, трэба скарыстаць усім органам партыі савецкае ўлады, усім установам і арганізацыям, на пэўных вучастках савецкай работы, гаспадарча-каапэрацыйнага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва.

У мінулую чарговую кампанію мы мелі наступную актыўнасьць яўкі працоўных на перавыбары саветаў: у сельскіх мясцовасьцях—58,8 проц., у гарадох—69,2 проц. Зразумела, што такая яўка выбаршчыкаў зараз на **даным этапе будаўніцтва** будзе нездавальняючай. Мы павінны ведаць, што посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва забясьпечваюцца ўцягненьнем самых шырокіх працоўных мас. Таму павінна быць зараз-жа зьвернута ўвага ўсіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх установаў і арганізацый і прыняты своечасова меры, якія павінны **забясьпечыць удзел у кампаніі ўсіх выбаршчыкаў,** а таксама ўсіх савецкіх установаў і грамадзкіх арганізацый.

**Паміж саветамі і раённымі выканаўчымі камітэтамі павінна быць наладжана пераклічка і заключаны дагаворы аб сацыялістычным спаборніцтве на лепшую арганізацыю і правядзеньне выбараў у саветы.** Мэтады падрыхтоўкі да перавыбараў шляхам сацспаборніцтва павінны быць ужыты і на прадпрыемствах і праводзіцца пад знакам паляпшэньня вытворчасьці, узмацненьня вытворчай дысцыпліны, барацьбы з прагуламі, барацьбы за паляпшэньне якасьці прадукцыі і зьніжэньне сабекошту. Такія мэтады, апроч добрых вынікаў у справе перавыбараў, дадуць значны вытворчы эфэкт.

Саветы і выканаўчыя камітэты павінны будуць даць працоўным справаздачы аб тым, як яны выконвалі і выконваюць заданьні партыі і савецкай улады ў розных галінах кіраўніцтва, паляпшэньня народнай гаспадаркі і культуры, як яны выканалі наказы сваіх выбаршчыкаў. Пры дапамозе шырокіх працоўных мас, на падставе бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі, неабходна выявіць усе недахопы і перагібы ў працы і знайсьці правільныя шляхі да выпраўленьня ўсіх памылак у рабоце саветаў. Справаздачная кампанія павінна **выявіць** усе саветы, савецкія органы і ўстановы, якія ня могуць забясьпечыць пасьпяховага правядзеньня дырэктыў партыі і ўраду ў справе сацыялістычнага будаўніцтва і **ўзмацніць іх склад лепшымі работнікамі з рабочых, батракоў, калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў,**—актыўна праводзячых палітыку камуністычнай партыі і савецкай улады.

Своечасовая падрыхтоўка і абгаварэньне на рабочых сходах, на сходах

беднаты кандыдатур у саветы павінна заняць асобнае месца ў падрыхтоўцы да выбараў. Якаснае паляпшэньне апарату неабходна шчыльна зьвязаць з пытаньнем барацьбы з бюракратызмам, са шкодніцтвам.

У выніку апошніх выбараў у гарадзкія саветы было абрана: 42,5 проц. рабочых, у сельскія саветы было абрана батракоў і с.-г. рабочых—2,8 проц. і сялян, якія былі вызвалены ад с.-г. падатку—38,2 проц. Надыходзячыя перавыбары саветаў павінны забясьпечыць у складзе гарсаветаў больш паловы рабочых з вытворчасьці і значна павялічыць рабочую праслойку ў сельскіх саветах. Шляхам перавыбараў мы павінны дабіцца **рашучага ўзмацненьня** нізавых органаў дыктатуры пралетарыяту—сельсаветаў, бо бяз гэтага немажліва далейшая пасьпяховая праца на вёсцы. Ажыцьцяўленьне лёзунгу ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі патрабуе ад работнікаў сельсаветаў **клясавай вытрыманасьці, палітычнай сьвядомасьці і бальшавіцкай актыўнасьці.**

На мясцох неабходна **праверыць у часе перавыбараў справу ўмацаваньня раёнаў** былымі акруговымі работнікамі. Зараз раён зьяўляецца тым месцам, дзе канкрэтна вырашаюцца амаль усе вузлавыя пытаньні сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы. Вялікія задачы, што стаяць зараз перад раёнамі, патрабуюць умацаваньня раёнаў моцнымі кваліфікаванамі работнікамі і спэцыялістымі. Дырэктывы аб умацаваньні раёнаў кадрамі, паводле тых вестак, якія маюцца на сёнешні дзень, у многіх мясцох **выканаяы нездавальняюча.** Гэта ставіць пад пагрозу пасьпяховае далейшае вырашэньне на мясцох пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва. Неабходна **праверыць прычыны** нездавальняючага выкананьня дырэктаў—**умацаваць раёны належнымі кадрамі.**

У сельскіх мясцовасьцях саўгасы і буйныя калгасы павінны стаць палітычнымі штабамі па садзейнасьці выбарам сельскіх саветаў, умацаваньні саюзу батрацтва і беднаты з серадняком супроць кулацтва. Сельскія саветы ў часе перавыбараў павінны будуць даць сваім выбаршчыкам справаздачы аб тым, **як яны здолелі стаць на чале новага прыліву ў калгасы.** Гэта галіна працы саветаў павінна быць праверана да часу перавыбараў рабочымі брыгадамі, беднатой і грамадзкасьцю.

Справаздачная кампанія ў гарадох павінна мабілізаваць рабочую клясу на барацьбу за рашучую перабудову работы гарадзкіх саветаў з тым, каб гарсаветы сапраўды сталі **на чале выкананьня прамфінпляну, на чале справы палепшаньня рабочага забясьпечаньня,** каб яны рашуча наладзілі арганізацыю прыгарадных гаспадарак, палепшылі-б грамадзкае харчаваньне, жыльлёвае будаўніцтва, забясьпечылі-б ліквідацыю няпісьменнасьці, ажыцьцяўленьне ўсеагульнага навучаньня і г. д.

У гарадох, а таксама і ў вёсцы павінен быць наладжан **збор рабочых прапаноў,** арганізаваны спэцыяльныя рабочыя групы па праверцы **выкананьня і распрацоўцы новых наказаў саветам.**

Пры арганізацыі перавыбараў саветаў неабходна ўлічыць усе тыя недахопы і прарывы, якія былі адзначаны ў мінулую перавыбарчую кампанію. Сюды трэба аднесьці няўважлівыя адносіны да стварэньня выбарчых камісій і да ўкамплектаваньня іх лепшымі рабочымі, калгаснікамі, батракамі, беднякамі, што ў сваю чаргу выклікала прымірэнчыя адносіны да кулакоў і іх памочнікаў. Не заўсёды ўважліва адносіліся на мясцох да справы складаньня сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчага права. Былі выпадкі, калі ў сьпісы „лишенцев" трапляў серадняк, а падкулачнікі, як гэта наглядалася ў некаторых мясцох, траплялі ў выбарчыя камісіі. Раённыя выканаўчыя камітэты слаба кіравалі перавыбарамі саветаў. Работа сярод батрацтва і беднаты была пастаўлена нездавальняюча. Прафэсыянальныя і грамадзкія арганізацыі прымалі ў перавыбарах саветаў невыстарчальны ўдзел. Цэнтральныя органы грамадзкіх арганізацый і савецкіх устаноў абмяжоўваліся папяровым кіраўніцтвам і пасылкай дырэктыў мясцом і гэтым лічылі свой удзел у выбарах у саветы вычарпаным. Праца перавыбараў часта ня ўвязвалася з правядзеньнем агульных палітычных і гаспадарчых задач.

Усе гэтыя недахопы мінулага трэба загадзя ўлічыць і не дапусьціць іх паўтарэньня. На гэты раз пры перавыбарах саветаў справаздачная кампанія пасобна не вылучаецца і праводзіцца адначасова. Аднак, гэта ні ў якім разе не адзначае, што справаздачнасьці павінна аддавацца менш увагі, чым гэта было раней. Наадварот, ва ўстаноўленых тэрмінах у каляндарным пляне перавыбараў **справаздачнасьць павінна заняць асноўнае месца**.

Справаздачна-перавыбарчая кампанія ёсьць самая шырокая мабілізацыя рабочае клясы і працоўнага сялянства на актыўны ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве, на актыўнае кіраўніцтва пралетарскай дзяржавы. **Перавыбары саветаў ёсьць самая грунтоўная і ўсебаковая праверка работы кожнага органу савецкай улады, кожнай установы і арганізацыі, іх удзелу ў сацыялістычным будаўніцтве.** Гэтая кампанія павінна яшчэ больш падштурхнуць масы да разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, на пасьпяховае выкананьне тых вялізарнейшых задач, якія зараз стаяць перад краінай саветаў.

Памятаючы аб ваеннай пагрозе і небясьпецы з боку капіталістычнага сьвету, трэба ў часе перавыбараў саветаў асаблівую ўвагу зьвярнуць на тое, як саветы і выканаўчыя камітэты ўмацоўваюць абараназдольнасьць Савецкага Саюзу, як яны клапоцяцца аб яго верным вартаўніку—Чырвонай арміі. У выніку справаздачна-перавыбарчай кампаніі павінна быць **яшчэ больш узмоцнена ўвага** працоўных нашай краіны да абароны, **яшчэ больш узмоцнена пралятарская сувязь рабочых і сялянскіх працоўных мас з Чырвонай арміяй.**

Для таго, каб перавыбары саветаў спрыялі далейшым посьпехам пабудовы сацыялізму, **неабходна ўцягнуць у падрыхтоўку і правядзеньне выбараў саветаў усю масу працоўных.** Неабходна дабіцца поўнай згуртаванасьці і арганізаванасьці рабочых, батрацтва, беднаты і калгасьнікаў, весьці за сабой серадняка-адзінаасобніка на барацьбу з кулаком пры перавыбарах саветаў. Максымум увагі трэба аддаць арганізацыям беднаты і падрыхтоўцы да перавыбараў працоўных жанчын. Падрыхтоўка і ўцягненьне працоўных нацменшасьцяй у выбарчую кампанію мае вялікае палітычнае значэньне. **Пытаньні нацыянальнай палітыкі, беларусізацыі, абслугоўваньня нацменшасьцяй і г. д. з пункту гледжаньня пастаноў апошняга пленуму ЦК КП(б)Б павінны быць пры перавыбарах шырока растлумачаны. Адначасова трэба шырока папулярызаваць вялізарныя дасягненьні** ў гэтай галіне сацыялістычнага будаўніцтва.

Зразумела, уся выбарчая кампанія павінна праходзіць пад знакам змаганьня за генэральную лінію партыі, супроць правых і „левых“ апартуністых, прымірэнцаў да іх, супроць вялікадзяржаўнага расійскага шавінізму, беларускага нацыянал-дэмакратызму і інш. шавінізмаў.

Кампаніі перавыбараў саветаў партыйныя арганізацыі павінны аддаць вялікую ўвагу, усямерна павысіць арганізацыю актыўнасьці мас і ўзмацніць сваё кіраўніцтва.

Кароткі тэрмін, які застаўся да перавыбараў саветаў, патрабуе ад усіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый самай напружанай падрыхтоўчай работы.

А. Хацкевіч.

---

## Удзел нацменшасьцяй у перавыбарах саветаў.

Аднэй з важнейшых палітычных задач перавыбарчай кампаніі саветаў зьяўляецца поўнае ўцягненьне працоўных нацменшасьцяй у гэту кампанію. Гэта дыктуецца самім зьместам усей палітыкі партыі і савецкай улады ў нацыянальным пытаньні.

Палітыка царскага ўраду і ўсіх капіталістычных дзяржаў у нацпытаньні вызначалася і вызначаецца адным лёзунгам: „Разделяй і властвуй“. Таму царскі ўрад імкнуўся ўзбудзіць нянавісьць працоўных аднэй нацыі супроць другой: палякаў, латышоў супроць яўрэяў, та-

тар супроць армян, рускіх супроць палякаў і беларусоў і г. д. Гэта палітыка ішла аб руку з падаўленьнем усякай нацыянальнай культуры і эканамічнай эксплёатацыяй працоўных нацменшасьцяй. Ня гледзячы на гэта, царскі ўрад і др. капіталістычныя правіцельства нахадзілі і знаходзяць поўную падтрымку сярод буржуазіі гэтых нацменшасьцяй, бо ўвесь цяжар капіталістычнае палітыкі падае толькі на працоўныя масы.

Найбольш выразным праяўленьнем гэтай палітыкі мы маем у Польшчы, дзе ня толькі адчуваецца вялікі заняпад эканамічнага становішча працоўных нацыянальных меншасьцяй (украінцаў і беларусоў), але і вядзецца нячуваны руйнуючы паход супроць працоўных і супроць украінскай і беларускай культуры.

Палітыка Ураду Савецкага Саюзу ў нацыянальным пытаньні поўнасьцю адрозьніваецца ад гэтай палітыкі.

Замест супроцьпастаўленьня асобных нацыянальнасьцяй, партыя і ўрад вядзе палітыку ўсямернага набліжэньня працоўных усіх нацый, на падставе генэральнай лініі: „будаваць культуру нацыянальную па сваёй форме, і сацыялістычную па свайму зьместу“.

Замест эксплёатацыі працоўных і блёка з буржуазіяй нацменшасьцяй партыя і ўрад праводзяць рашучую барацьбу супроць капіталістычных элемэнтаў нацменшасьцяй, прымаючы ў той жа час усе крокі, каб палепшыць эканамічнае становішча працоўных нацменшасьцяй.

Замест падаўленьня нацыянальнай культуры, партыя і ўрад усімі сіламі разьвівае яе. Змагаючыся супроць імкненьняў вялікадзяржаўных шавіністаў, нацыянал-дэмакратаў, а таксама шавіністаў нацменшасьцяй накіраваць нацыянальную культуру на буржуазныя рэйкі, партыя і ўрад разьвівае сацыялістычны зьмест гэтай культуры і ўсямерна дапамагае разьвіцьцю нацыянальных форм яе.

„Вырашыць нацыянальную праблему можа толькі пралетарыят і толькі пасьля заваеваньня ўлады, і вось таму, па меры ўзмацненьня дыктатуры пралетарыяту, па меры росту сацыялістычнага будаўніцтва і посьпехаў разгорнутага наступленьня па ўсім фронце, узмацняецца база для вырашэньня нацыянальнага пытаньня“ (З рэзалюцыі Кастрычніцкага Пленуму ЦК КП(б)Б).

Уся нацпалітыка партыі і ўраду ў БССР пацьвярджае гэта палажэньне.

Да кастрычнікавай рэвалюцыі, так званае, „яўрэйскае пытаньне“ лічылася неразрашымым сярод тых дробна-буржуазных партый, якія цікавіліся ім. Гэта пытаньне зьвязана з праблемай мястэчка.

Пралятарская дыктатура ў БССР вырашыла гэтае пытаньне вельмі проста. Замест „черты оседлости“ яна паставіла задачу ўсямернага ўцягненьня яўрэйскага працоўнага насельніцтва ў прамысловасьць і сельскую гаспадарку. У выніку гэтай палітыкі мы маем на сёньняшні дзень у аднэй толькі цэнзавай прамысловасьці БССР каля 15.000 рабочых яўрэяў, а на сельскай гаспадарцы каля 10.000 сямей, з якіх каля 5.000 аб'яднаны ў калгасы. Мястэчка, тое самае „злосчастное“ мястэчка, праблема якога ніяк не вырашалася ў капіталістычных умовах, усе больш скарачаецца, дзякуючы цягне мястачковага насельніцтва ў прамысловасьць і сельскую гаспадарку.

Да Кастрычнікавай рэвалюцыі праблема мірнага сажыцельства Дзяржаўных нацый, з нацменшасьцямі таксама была неразрашымай, вярнее яна вырашалася і вырашаецца ў сучасны момант у капіталістычных краінах, шляхам зьнішчэньня нацкультуры (русіфікацыя, полонізацыя).

Пралятарская дыктатура ў БССР вырашыла гэтае пытаньне іншым шляхам. Аб гэтым сьведчыць наяўнасьць па БССР 70 нацсаветаў (21 польскіх, 22 яўрэйскіх, 16 расейскіх, 5 латышскіх, 3 украінскіх, 2 нямецкіх і 1 літоўскага).

Аб гэтым сьведчыць рост сеткі нацыянальных культурных устаноў. Колькасьць школ 4-х годак на яўрэйскай мове толькі за апошнія 2 гады павялічылася на 26 адзінак і складае 171. Колькасьць польскіх школ 4-х годак павялічылася на 8 адзінак і складае 141 і г. д. Колькасьць сямігодак і дзевяцігодак на мовах нацменшасьцяй павялічылася на 20 адзінак і складае 112. Значна павялічылася колькасьць прафшкол і школ сялянскай моладзі. Арганізаваны аддзяленьні нацменшасьцяй на рабфаках. Нарэшце колькасьць выданьняў на нацыянальных мовах толькі па НК Ась-

веты павялічылася ў тры з паловай разы. Замест 364 аркушаў у 1927-28 г. надрукована 1228 аркушаў.

Усе нацыянальнасьці на тэрыторыі БССР зьяўляюцца зусім раўнапраўнымі.

Вельмі значная праца праведзена па БССР урадам у напрамку эканамічнага пад'ёму бядняцка-серадняцкіх мас нацменшасьцяй, працуючых на сельскай гаспадарцы. Гэта праца праводзілася перш за ўсё шляхам уцягненьня бядняцка-серадняцкіх мас у сацыялістычнае будаўніцтва. Аб посьпехах гэтай працы сьведчаць наступныя лічбы: да вясеньняга севу 1929 году было польскіх калгасаў—13 з колькасьцю сямей 150, а на 1/IX-30 году мы маем ужо польскіх калгасаў 86, з колькасьцю сямей—1.194. Яўрэяў у калгасах на жнівень 1929 году было ўсяго 1.698 сямей, а на 1 мая 1930 году іх было ўжо 4.812 сямей. Таксама шпарка ідзе аб'яднаньне латышскага і літоўскага насельніцтва ў калгасах.

Такія посьпехі эканамічнага і культурнага разьвіцьця нацменшасьцяй тлумачыцца той вялікай увагай, якую аддае партыя, урад і ўся грамадзкасьць гэтаму пытаньню. Аднак, партыя і ўрад не абмяжоўваюцца гэтым, а імкнуцца яшчэ больш палепшыць гэтую працу. Так апошні Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што „За апошні час наглядаецца значнае паслабленьне работы сярод нацменшасьцяй (яўрэяў, палякаў, латышоў, літоўцаў і г. д.). Партыйныя, прафэсыянальныя, савецкія апараты яшчэ не падыйшлі шчыльна да задач сыстэматычнага абслугоўваньня нацыянальных меншасьцяй".

Гэта пастанова Пленуму ЦК КП(б)Б ускладае адказнасьць на ўсе апараты за далейшае палепшаньне гэтай працы.

Задача перавыбарчай кампаніі саветаў гэтага году ня толькі замацаваць тыя дасягненьні, якія маюцца, але і шырэй разгарнуць далейшую працу ў гэтай галіне.

Перш за ўсё неабходна дабіцца яшчэ большага ўдзелу працоўных нацменшасьцяй у перавыбарах. У мінулых перавыбарах (1929 году) процант удзелу нацменшасьцяй быў вышэй сярэдняга проценту па БССР. Пры агульным процанце актыўнасьці ў сельскіх мясцовасьцях—58,8 проц., удзел яўрэяў раўняўся 65,4, палякаў—62,6 проц., латышоў 60,1 проц. і іншых 50,1 проц.

Гэта сьведчыць ужо само, што нацменшасьці ў БССР па палітычнай актыўнасьці не адстаюць ад другога насельніцтва. Дасягнутыя ў гэтай галіне посьпехі трэба ўзмацніць і пашырыць. Неабходна ўдзяліць асаблівую ўвагу павялічэньню актыўнасьці зусім малых нацменшасьцяй (літоўцаў, немцаў, татар і г. д.).

Па-другое, падрыхтоўчая перавыбарчая кампанія сярод нацменьшасьцяй павінна ператварыцца ў праверку таго, наколькі сельсаветы і культурныя ўстановы ахапляюць сваім абслугоўваньнем працоўных нацменшасьцяй: ці вядзецца праца на роднай мове, як працуюць нацыянальныя культурныя ўстановы, клясавы зьмест гэтай працы і г. д. Для гэтай праверкі неабходна прыцягнуць шырокія масы працоўных саміх нацменшасьцяй.

Асабліва значную ўвагу трэба ўдзяліць далейшаму палепшаньню працы нацсаветаў. Гэта праца павінна стаць у цэнтры ўвагі РВК.

Пасьпяховае абслугоўваньне нацменшасьцяй на роднай мове цесна зьвязана з пытаньнем нацыянальных кадраў. У гэтай галіне наогул маюцца значныя дасягненьні, але-ж да гэтага часу адчуваецца значны недахоп у кадрах для нізавых органаў і ўстаноў (сельсаветы, хаты-чытальні і нават нізавыя нацыянальныя школы). Таму перавыбарчая кампанія павінна дапамагчы выявіць новы актыў і ўцягнуць яго ў працу. Неабходна больш рашуча правесьці высоўваньне батракоў, беднякоў і сераднякоў на працу ў нацыянальныя саветы і ўстановы.

Перавыбарчая кампанія павінна нанесьці рашучы ўдар імкненьням як вялікадзяржаўных расійскіх шавіністаў, беларускіх нацыянал-дэмакратаў, так і шавіністаў нацменшасьцяй да нацыянальнага разьмяжоваўньня працоўных, іх імкненьнем замяніць лёзунг партыі аб нацпалітыцы „нацыянальныя па форме, і сацыялістычныя па зьместу" лёзунгам: „нацыянальнай (буржуазнай) па зьместу і пралетарскай па форме", а фактычна буржуазнай і па форме.

Спробам адцягнуць пралетарыят і бядняцка-серадняцкае сялянства ад клясавай барацьбы, шляхам узбуджэньня

нацыянальнай розьні, спробам аднавіць палітыку царскага ўраду ў нацыянальным пытаньні неабходна даць самы рашучы адпор. Таму падрыхтоўчая і сама перавыбарчая кампанія сярод нацменшасьцяй павінна быць скарыстана для растлумачэньня сутнасьці нацыянал-дэмакратызму і нацменаўскага шавінізму, як фактычна контр-рэвалюцыйных плыняў.

Галоўная ўвага аднак, у час перавыбарчай кампаніі сярод нацменшасьцяй павінна быць накіравана на ўзмацненьне і далейшае разгортваньне будаўніцтва сацыялістычных форм і на рашучую барацьбу з кулаком і нэпманам. Посьпехі калгаснага руху сярод нацменшасьцяй сьведчыць аб тым, што правідловасьць генэральнай лініі партыі па сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі і важнасьць задачы ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну пралетарыятам і асноўнай масы бядняцка-серадняцкага сялянства ня толькі ўяўлена, але і праводзіцца імі на практыцы. Аднак, посьпехі гэтага будаўніцтва выклікаюць сярод кулацкай часткі насельніцтва шалёнае супраціўленьне, прычым і нэпманы і кулакі часта імкнуцца ўкрыцца шыльдай „нацыянальнага адзінства“, якое яны і прапагандуюць. Таму, рашучая барацьба супроць кулака і нэпмана з аднаго боку і праца па замацаваньню калгасаў і далейшага разгортваньня калгаснага руху маюць яшчэ большае значэньне чым наогул.

За апошні год мы мелі факты спроб з боку кулацкіх і нэпманаўскіх элемэнтаў, альбо іх агэнтаў унесьці розьнь і сярод рабочых асобных прадпрыемстваў. Перавыбарчая кампанія павінна выкрыць і растлумачыць значэньне гэтых спроб з боку ворагаў пралетарыяту і дапамагчы далейшаму ўзмацненьню інтэрнацыянальнай працы.

Узмацняючы ў час перавыбарчай кампаніі барацьбу з кулакамі і іх агэнтамі, нельга ні ў якім выпадку забыць аб выпраўленьні тых памылак, якія мелі месца вясною г.-г., калі ў шэрагу мястэчак і нацыянальных саветах былі дапушчаны грубыя скажэньні лініі партыі ў адносінах да серадняка.

Вялікае значэньне ў час перавыбарчай кампаніі набывае большае ўцягненьне жанчын нацменак у гэтую кампанію. Трэба адзначыць, што палітычная актыўнасьць жанчын нацменак да гэтага часу была далёка нездавальняючая. Значная частка жанчын яўрэйскай, польскай, латышскай, літоўскай і нямецкай нацыянальнасьці яшчэ знаходзяцца пад уплывам клерыкальных элемэнтаў, якія і скарыстоўваюць іх у сваёй барацьбе супроць пралятарскай дыктатуры. Прыцягнуць жанчын нацменак да ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве, прыцягнуць іх да палітычнага жыцьця—гэта адна з важнейшых задач сучаснай перавыбарчай кампаніі.

Пасьпяховае правядзеньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі сярод нацменшасьцяй мае вялікае значэньне. Яна павінна дапамагчы поўнаму праламленьню на практыцы генэральнай лініі партыі ў нацпалітыцы. Яна павінна даць адпор усім спробам скрывіць гэтую лінію, яна павінна даць вялікі штуршок яшчэ большаму ўзмацненьню клясавай салідарнасьці і цеснаму супрацоўніцтву пралетарыяту, батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас усіх нацыянальнасьцяй БССР у напрамку пабудовы сацыялізму і ў прыватнасьці ажыцьцяўленьню пяцігодкі ў чатыры гады.

А. Вайцок.

---

**За няўхільнае правядзеньне генэральнай лініі партыі, за ажыцьцяўленьне Ленінскай нацпалітыкі.**

# Прафсаюзы і справаздачна-перавыбарчая кампанія саветаў.

Перажываемы намі пэрыяд характарызуецца крызісам капіталістычнай сыстэмы, абвастрэньнем супярэчнасьцяй паміж капіталістычнымі краінамі, узмацненьнем небясьпекі вайны і ў першую чаргу нападу на Савецкі Саюз, узмацненьнем клясавых боек паміж працай і капіталам, па-за межамі Савецкага Саюзу і відочным ростам сацыялізма ў краіне саветаў, ростам індустрыялізацыі краіны, паваротам асноўных бядняцка-серадняцкіх мас вёскі да калектывізацыі. Прашоўшы год з усёй упартасьцю і неадхільнасьцю сталёвай лёгікі гісторыі паказаў перавагу савецкай сыстэмы над сыстэмай капіталістычнай. Усё гэта выклікала яшчэ больш шалёную нянавісьць усіх капіталістых да краіны дыктатуры пралетарыяту. І ўсе гэта ня можа быць ні на хвілінку забыта ў час перавыбараў саветаў. Перавыбары саветаў павінны яшчэ больш забясьпечыць абараназдольнасьць нашай краіны, узмацніць сувязь шырачайшых рабочых мас з Р. С. Чырвонай арміяй, узмацніць непарушную сувязь „бацькаўшчыны пралятарыяў усяго сьвету“ з міжнароднай рабочай клясай.

Складаныя міжнародныя абставіны і пасьпяховае будаўніцтва сацыялізму, абвастрэньне клясавай барацьбы і рашучы наступ пралетарыяту вось умовы, у якіх будзе праходзіць справаздачна-перавыбарчыя кампаніі саветаў у гэтым годзе. Усе гэта ўскладае на прафсаюзныя арганізацыі, масавыя арганізацыі пралетарыяту, станавы хрэбет дыктатуры пралетарыяту, вялізарнейшыя задачы і адказнасьць за правядзеньне, пад кіраўніцтвам Ленінскай партыі, справаздачна-перавыбарчай кампаніі пад знакам узмацненьня саветаў, як органаў дыктатуры пралетарыяту, пад знакам мабілізацыі мас праз саветы і навакол саветаў, на пасьпяховае ажыцьцяўленьне сацыялістычнага будаўніцтва, перамогу цяжкасьцяй нашага росту, на выкананьне пяцігадовага пляну вялікіх работ, сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, уздыму культурнага і палітычнага ўзроўню шырачайшых мас працоўных і далейшага рашучага выцясьненьня капіталістычных элемэнтаў і ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

Прафсаюзныя арганізацыі, разьбіўшы і выкінуўшы з сваіх радоў праваапартуністычнае кіраўніцтва, у сваёй масе паказалі, што яны здольны пад кіраўніцтвам нашай партыі вазглавіць вялізарнейшы энтузіазм рабочае клясы, вазглавіць новыя формы камуністычнае працы і камуністычных адносін да выкананьня ўсіх задач, якія пастаўлены рэканструкцыйным пэрыядам перад пралетарыятам. Прафсаюзы павінны ўвесь вопыт сваёй работы па мабілізацыі мас перанесьці на справу перавыбараў саветаў, зьвязаць, як неразрыўнае цэлае, перавыбары саветаў з выкананьнем палітычных задач ударнага кварталу і падрыхтоўкі да 3-га, рашаючага, году пяцігодкі.

Перавыбары саветаў зьяўляюцца праверкай мабільнасьці прафарганізацый на правядзеньне аднэй з важнейшых палітычных кампаній. Вось чаму ўжо зараз патрэбна распачаць падрыхтоўчую работу і праводзіць яе са дня-ў-дзень, сыстэматычна ахопліваючы самой падрыхтоўкай ня сотні і тысячы, а сотні тысяч рабочых.

Што значыць падрыхтоўка да перавыбараў саветаў?

Падрыхтоўка да перавыбараў саветаў гэта значыць: выкананьне прамфінпляну, рост ударнікаў, скразных брыгад; вытворчыя манэўры на ўсіх прадпрыемствах, рост вытворчых камун і калектываў, рост сацспаборніцтва; узмацненьне пралятарскага кіраўніцтва, практычнага ўдзелу прафарганізацый і саміх рабочых у сац. рэканструкцыі вёскі; наладжваньне рабочага забясьпечаньня, арганізацый прыгарадных гаспадарак, сацыяльна-бытавога абслугоўваньня рабочых, барацьбы з бюракратызмам, валакітай, ачыстка апарату ад чуждых і варожых элемэнтаў, гэта значыць шырачайшае разгортваньне самакрытыкі навакол работы саветаў; барацьба за генэральную лінію партыі, супроць усякіх ухілаў, супроць ныцікаў і малавераў, за бальшавіцкія тэмпы работы.

Давядзеньне да кожнага рабочага ўсёй работы гарсавету праз насьценгазэты,

шматтыражкі, клюбныя вечары, гутаркі, справаздачы дэпутатаў, брыгады па праверцы выкананьня наказаў; збор рабочых прапаноў для новых наказаў і па перабудове работы саветаў; заключэньне сацдагавароў на лепшае правядзеньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў тым ліку і па дапамозе сельскім саветам.

Усе гэтыя задачы—зьяўляюцца задачамі штодзённай работы прафарганізацый. Справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна ня толькі ўдзесяцярыць ўвагу да іх але ўдзесяцярыць і тэмпы выкананьня іх. Усякія разважаньні аб тым, што падрыхтоўку да перавыбараў саветаў распачнем тады, калі скончым калдагаворную кампанію, вытварчыя манэўры, праработку прамфінпляну зьяўляюцца неразуменьнем таго, што і выкананьне прамфінпляну і перавыбары саветаў зьяўляюцца аднэй неразрыўнай задачай.

Прафарганізацыі ўсей сваей работай павінны забясьпечыць пагалоўны актыўны ўдзел рабочых у справаздачна-перавыбарчай кампаніі, у праверцы практычнай работы саветаў павароту савецкіх органаў тварам да вытварчасьці, па рабочаму забясьпечаньню, па разгортваньню культурнай рэвалюцыі. Ня толькі праверыць і абгаварыць, але дапамагчы гарсаветам і сельсаветам практычна перабудаваць іх работу ў адпаведнасьці з новымі задачамі—вось задача кампаніі.

У мінулых кампаніях перавыбараў саветаў прафарганізацыі адыгралі вялізарнейшую ролю ў справе перавыбараў сельскіх саветаў, дапамагаючы партыі арганізаваць батрацтва, беднату і серадняцкія масы супроць кулацтва. Абвастрэньне клясавай барацьбы на вёсцы, шалёнае супраціўленьне кулацтва ўсім правадзімым партыяй і савецкай уладай мерапрыемстваў, задачы арганізацыі новага прыліву ў калгасы на аснове добраахвотніцтва гэтую ролю прафарганізацый у перавыбарах саветаў на вёсцы ў шмат разоў павялічваюць у параўнаньні з мінулымі гадамі.

Праз 25-тысячнікаў, праз масавую пасылку рабочых брыгад (ня толькі ў час перавыбарчай кампаніі, але і для падрыхтоўкі) праз прадпрыемствы, якія знаходзяцца ў вёсцы, праз актыўнейшую работу ўсіх сяброў саюзаў, якія знаходзяцца ў вёсцы—арганізаваць батрацтва, беднату і серадняка навакол лёзунгаў партыі, навакол справы калектывізацыі даць рашучы адпор усім спробам кулацкіх элемэнтаў пралезьці ў саветы і пашкодзіць сац. рэканструкцыі вёскі—вось задачы прафсаюзных арганізацый.

Узмацненьне і рост калгасаў павінны зьявіцца вынікам перавыбарчай кампаніі саветаў на вёсцы і меркай удзелу прафарганізацыі ў гэтай справе.

Асаблівую ўвагу прафсаюзным арганізацыям патрэбна надаць справе дапамогі ў перавыбарах нац. саветаў, забясьпечваючы адначасова ва ўсіх сельскіх і гарадзкіх саветах удзел і практычнае абслугоўваньне з боку саветаў працоўных нац. меншасьцяў.

Справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна яшчэ раз завастрыць увагу прафсаюзнай грамадзкасьці над справай ўцягненьня работніц і сялянак у актыўную работу саветаў, прафсаюзаў, калгасаў, каапэрацыі на растлумачэньне асабліва сярод сялянак асноўных гаспадарча-палітычных задач трэцяга году пяцігодкі, задач сацыялістычнай перабудовы вёскі. Рабочыя і работніцы нашых фабрык і заводаў павінны ў час перавыбарчай кампаніі накіраваць растушчую актыўнасьць калгасьніц, батрачак і серадлячак на справу перабудовы быту і эканомікі вясковага жыцьця на сацыялістычны лад, даючы рашучы адпор кулацкім і контр-рэвалюцыйным элемэнтам скарыстаць меншую сьвядомасьць сялянак на свой бок.

Усе гэтыя задачы прафсаюзныя арганізацыі змогуць выканаць, мабілізаваўшы навакол перавыбарчай кампаніі сотні тысяч ударнікаў, актывістых, добраахвотнікаў, перабудоўваючы сваю работу формы і мэтады работы, рашуча ачышчаючыся ад апартуністычных, забюракраціўшыхся, закасьцянеўшых элемэнтаў у прафруху, рашуча праводзячы лінію партыі ў прафрабоце. Усякай спробе адмахнуцца ад кампаніі, правесьці яе па казёнаму без мабілізацыі мас, абмежавацца славеснай трэскатнёй, як тыповаму праяўленьню правага апартунізму, павінен быць дан зьнішчаючы адпор.

**М. Клімковіч.**

# Асаблівасьці кампаніі перавыбараў с.-с. і РВК гэтага году.

Перавыбарчая кампанія саветаў гэтага году мае цэлы шэраг асаблівасьцяй у параўнаньні з мінулай перавыбарчай кампаніяй 1927/28 г. Гэтыя асаблівасьці выплываюць з тых працэсаў у вёсцы, якія мелі месца ў апошнія 2 гады. Асноўныя з іх наступныя:

Па-першае, шырокая цяга бядняцкіх і серадняцкіх мас у калгасы і паяўленьне новай апоры партыі на вёсцы ў асобе калгасьнікаў.

Па-другое, рост калгасаў, якія сталі асноўнай формай разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

Па-трэцяе, шалёная барацьба кулацтва супроць мерапрыемстваў партыі і савецкай улады на вёсцы.

Па-чацьвертае, значны рост актыўнасьці жанчын.

Па-пятае, павялічэньне ролі с/с. і РВК у сувязі з умацаваньнем іх матар'яльнай базы і павялічэньнем іх правоў і абавязкаў.

Усе гэтыя моманты вызначаюць асноўныя мэты і задачы перавыбарчай кампаніі.

Самае галоўнае, што павінна даць перавыбарчая кампанія саветаў гэтага году гэта згуртаваньне думкі і актыўнасьці бядняцка-серадняцкіх мас вакол далейшага ўзмацненьня калгаснага руху. Гэта пытаньне павінна стаць у цэнтры перавыбарчай кампаніі. Па таму як кіраваў с/с. гэтай працай трэба судзіць аб усёй рабоце с/с. Але абмяжоўвацца пры праверцы гэтай працы толькі заслухоўваньнем дакладу с/с. на перавыбарчым сходзе азначала-б па гэтай справе вельмі мала зрабіць. Таму ў падрыхтоўчай кампаніі праверка гэтай працы павінна сама па сабе ператварыцца ў цэлую кампанію. Што можна зрабіць, каб шырока разгарнуць гэтую кампанію?

Па-першае, увязаць перавыбарчую кампанію з шырока разгорнутым брыгадным абсьледваньнем становішча калгасаў. Брыгады для такіх абсьледваньняў павінны складацца з калгасьнікаў і адзіналічнікаў, пад кіраўніцтвам прадстаўнікоў с/с. альбо РВК. Для вытварэньня гэтых абсьледваньняў трэба прыцягнуць: агранамію, працаўнікоў калгассаюзу, настаўніцтва і бухгальтароў. На падставе вынікаў гэтых абсьледваньняў лягчэй будзе выявіць як кіраваў с/с. справай калектывізацыі і якія дырэктывы даць на далейшае па гэтаму наказу.

З другога боку, брыгады павінны зрабіць справаздачу аб выніках сваёй працы на сходах адзіналічнікаў і калгасьнікаў, што, бязумоўна, утворыць новы прыліў у калгасы.

Па-другое, неабходна скарыстаць выбары, каб згуртаваць яшчэ больш батрацтва і беднату для ўзмацненьня калгасаў. Па шэрагу раёнаў у нас склалася такая думка: раз наёмных батракоў няма, раз яны ўвайшлі ў калгас, дык і праца з імі больш непатрэбна. Раёны такім чынам хутка зьліквідавалі вясковы пралетарыят. Гэтым тлумачыцца адсутнасьць вучоту батракоў у шэрагу раёнаў і працы з імі. Некаторыя раёны пайшлі яшчэ далей і зьліквідавалі ўсе групы беднаты пры калгасах, што для БССР, як спажывецкай паласы, несвоечасова.

Таму, неабходна, каб да пачатку перавыбарчай кампаніі склікаць у с/с. сходы а ў раёнах раённыя канферэнцыі батракоў і беднаты калгасьнікаў, і некалгасьнікаў па пытаньню ўдзелу іх у справе палепшаньня працы калгасаў, арганізацыі новага прыліву ў калгасы, і ўдзелу с/с. у гэтай працы, ўвязаўшы гэта з пытаньнем праверкі, што зрабіў с/с. у гэтым напрамку за мінулы час. Асабліва вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на тое, каб узмацніць працу груп беднаты пры с/с. Неабходна паставіць у пэрыяд падрыхтоўчай кампаніі справаздачы аб дзейнасьці групы беднаты на сходах беднаты.

Па-трэцяе, трэба арганізаваць папярэдні збор прапаноў сярод калгасьнікаў і адзінаасобнікаў па пытаньнях палепшаньня працы ў калгасах і іх пашырэньню для ўнясеньня ў наказ. Гэта праца павінна быць праароблена с/г. вытворчымі камісіямі пры с/с., якія павінны правесьці для гэтага вялікую растлумачальную работу.

Другая задача падрыхтоўчай перавыбарчай кампаніі—гэта праверыць, як с/с. праводзіў барабцьбу з кулацтвам. Гэта праверка павінна быць зьвязана з

праверкай хода асноўных гаспадарчых кампаній, бо ў гэтых кампаніях больш за ўсе выяўлялася актыўнасьць кулака. Неабходна падагуліць усю барацьбу кулакоў супроць калгасаў як падпольную, гэтак і адчыненую і даць поўны малюнак яе на сходах. Трэба праверыць, як с/с. правёў працу па абкладаньню кулака і як кулак выконвае цьвёрдыя заданьні па збожжанарыхтоўкам, па падатку і г. д. Адначасова трэба праверыць ці няма ў працы с/с. скажэньняў лініі партыі і ўлады ў адносінах да серадняка і як выпраўлены памылкі, зробленыя вясной гэтага году.

Вельмі вялікай і адказнай задачай у час падрыхтоўчай кампаніі зьяўляецца далейшы пад'ём актыўнасьці жанчыны і накіраваньне гэтай актыўнасьці на ўзмацненьне калгасаў. Для гэтага, акрамя ўцягненьня жанчын у агульныя брыгады, трэба вызначыць асобныя брыгады з жанчын, праз якія вытварыць абгляды бытавых установ, асабліва ў калгасах, працу жанчын у калгасах, работу вылучэнак і дапамогу ім з боку с/с. і інш.

Значная падрыхтоўчая работа павінна быць праароблена для праверкі таго, як с/с. перабудаваў сваю працу ў сувязі з тымі новымі правамі, якія яму дадзены, а таксама як уцягнут у працу с/с. вясковы актыў. Для гэтага неабходна вытварыць брыгаднае абсьледваньне працы с/с., работы сэкцый, ажыцьцяўленьне с/с. сваіх правоў у зямельнай і адміністрацыйнай галіне і гэтак далей.

Усе гэтыя абсьледваньні павінны мець мэтай ня толькі выяўленьне недахопаў і дасягненьняў у рабоце с/с., але і азнаямленьне актыву і бядняцка-серадняцкіх мас з задачамі, правамі і абавязкамі с/с. Для гэтага неабходна, каб брыгады перад пачаткам абсьледваньня самі добра азнаёміліся з палажэньнем аб працы с/с.

Ці мэтазгодна выдзяляць шэраг брыгад і такім чынам разгортваць падрыхтоўчую кампанію?

Мы лічым, што такая форма разгортваньня падрыхтоўчай кампаніі дасьць найбольшую карысьць. Да гэтага году актыўнасьць мас выяўлялася галоўным чынам у ўдзеле на справаздачных і перавыбарчых сходах. Рост актыўнасьці мас за апошнія 2 гады патрабуе, каб апошнія атрымалі магчымасьць прыняць больш актыўны ўдзел у палепшаньні працы с/с., а для гэтага работа ў брыгадах стварае найбольш спрыяючыя ўмовы.

Вельмі вялікае значэньне пры арганізацыі работы па брыгаднаму мэтаду на вёсцы набывае забясьпечаньне кіраўніцтва брыгадамі. Па-першае, палітычнае кіраўніцтва. Бяспрэчна, што з боку кулацкіх элемэнтаў будзе імкненьне аказаць уплыў на асобныя брыгады. Па другое, агульнае кіраўніцтва работай брыгад у разгортваньні яе працы і падагульваньне вынікаў.

Таму тут трэба папярэдзіць, што гэта праца будзе мець посьпех толькі тады, калі на падрыхтоўчую кампанію па перавыбарам с/с. будзе мабілізаваны ўвесь актыў прафсаюзаў, грамадзкіх арганізацый і інтэлігенцыя, у прыватнасьці, настаўніцтва і калі поўнасьцю будзе ажыцьцяўлено кіраўніцтва вясковых парт'арганізацый гэтай кампаніяй.

Побач з адзначанымі галоўнымі задачамі падрыхтоўкі да перавыбарчай кампаніі нельга забываць і агульных задач, якія стаяць у час правядзеньня кожнай перавыбарчай кампаніі: праверка выкананьня наказаў, своечасовы разгляд і апублікаваньне сьпісаў абіральнікаў, падбор часу і месца перавыбарчых сходаў, сваечасовае ўручэньне павестак на сходы і г. д.

Усё адзначанае вышэй яшчэ больш закранае перавыбары ў РВК. Калі з працай с/с. насельніцтва больш-менш знаёма, дык гэтага нельга сказаць аб працы РВК. Абмяжоўвацца ў гэтым годзе пры перавыбарах РВК толькі справаздачамі РВК бязумоўна нельга. Трэба, каб насельніцтва бліжэй вывучыла працу РВК ня толькі шляхам заслухоўваньня справаздач, але і непасрэдным удзелам у абсьледваньні яго працы.

Перавыбарчая кампанія гэтага году праходзіць ва ўмовах разгортваньня сацыялістычнага будаўніцтва і абвостранай клясавай барацьбы. Гэта патрабуе мабілізацыі актыўнасьці ўсё большых і большых батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас. Таму перавыбары гэтага году і патрабуюць асобна ўважлівых адносін.

Кампанія павінна быць праведзена асобна арганізавана.

А. В.

# Перавыбары саветаў і калгасы.

Перавыбары саветаў зьяўляюцца важнейшай палітычнай кампаніяй. Гэтая кампанія набывае вялізарнейшае значэньне асабліва зараз, калі камуністычная партыя і савецкая ўлада вядуць разгорнутым фронтам шырачайшыя рабочыя і бядняцка-серадняцкія масы насельніцтва ў наступ на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, калі ў краіне саветаў на базе суцэльнай калектывізацыі ліквідуецца кулацтва, як кляса.

Рэшткі капіталізму вядуць упартае змаганьне за сваё існаваньне. Палітыка партыі і ўлады выклікае з боку капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі ўсялякае супраціўленьне ажыцьцяўляемым партыяй і ўладай мерапрыемствам. Гэтае супраціўленьне, бязумоўна, будзе асабліва ўзмацняцца ў час перавыбараў саветаў. Такім чынам, перавыбары саветаў будуць праходзіць ва ўмовах самай абвостранай клясавай барацьбы: кулацтва і іншыя капіталістычныя элемэнты будуць імкнуцца, каб усяляк перашкаджаць перавыбарам, каб прабрацца ў саветы і падрываць ізнутры іх работу.

„Кулакі—як сказаў тав. Ленін—самыя зьверскія, самыя грубыя, самыя дзікія эксплёататары, якія ня раз аднаўлялі ў гісторыі нашых краёў уладу абшарнікаў, цароў, папоў, капіталістых... Гэтыя п'яўкі пілі кроў працоўных..."

У час перавыбараў саветаў трэба цьвёрда памятаць, што „ў момант рашучага змаганьня пралетарыяту з яго эксплёататарамі—экслпёататарам ня можа быць месца ні ў водным з ворганаў улады"*).

Трэба памятаць, што кулак у гэтую выбарчую кампанію будзе ўсямерна скарыстоўваць усе слабасьці на мясцох, не спыняючыся перад тэрарыстычнымі актамі, як-та: падпаламі калгасаў, шкодніцтвам і забойствам паасобных актывістых калгасьнікаў. Ён будзе весьці самую варожую агітацыю супроць калгасаў, прымаючы ўсе меры да таго, каб паслабіць, парваць саюз беднаты з серадняком.

Таму падрыхтоўчая праца да перавыбараў саветаў, а таксама і самыя перавыбары неабходна выкарыстаць такім чынам, каб саюз батрацтва і беднаты з серадняком узмацніўся яшчэ больш, каб час перавыбараў зрабіўся часам моцнага прыліву новых тысяч сялянскіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у існуючыя калгасы і арганізацыі дзясяткаў і соцен новых калгасаў.

Зараз калі „вёска падзяляецца на дзьве асноўныя часткі: на калгасьнікаў, якія зьяўляюцца сапраўднай і грунтоўнай апорай савецкай улады, і на некалгасьнікаў з беднаты і серадлякоў, пакуль-што нежадаючых пайсьці ў калгасы, але якіх масавы вопыт калгасаў, бязумоўна, пераканае ў адносна кароткі тэрмін у неабходнасьці ўступіць на шлях калектывізацыі"*) пытаньне аб апоры савецкай улады на вёсцы ставіцца па новаму.

У час перавыбараў саветаў трэба зрабіць праверку і падвесьці вынікі работы сельскіх саветаў і раённых выканаўчых камітэтаў. Гэта трэба зрабіць пры самым шырокім удзеле ў праверцы мас рабочых, батракоў і калгасьнікаў. Толькі такая праверка дасьць гарантыю, што будуць сапраўдна выяўлены ўсе хібы, усе памылкі ў працы саветаў. Толькі такая праверка будзе гарантаваць рашучае выпраўленьне гэтых памылак.

Паколькі асноўныя недахопы ў рабоце саветаў ідуць па лініі іх адставаньня ад ударных тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, трэба падрыхтоўчую работу да перавыбараў саветаў павесьці пад лёзунгам карэннай перабудовы ўсёй работы саветаў на аснове сапраўднага іх павароту тварам да заводу, фабрыкі, саўгасу і калгасу".

Якія практычныя задачы паўстаюць перад калгасамі ў час перавыбараў у саветы?...

У час падрыхтоўкі да выбараў калгасьнікі павінны на агульных сходах, на сходах батрацтва і беднаты своечасова абгаварваць кандыдатуры ў саветы.

Перад калгасамі стаіць адказная задача—вылучыць з складу сваіх членаў лепшых калгасьнікаў, актыўна праводзячых палітыку камуністычнай партыі і

*) з дэкляраціі правоў працоўнага народу.

*) з рэзалюцыі XVI зьезду УсеКП(б).

савецкай улады, для ўзмацненьня складу саветаў і выканаўчых камітэтаў гэтымі па бальшавіцку актыўнымі, клясава-вытрыманымі і палітычна-сьвядомымі калгасьнікамі. Калгасы таксама павінны стаць ініцыятарамі на вёсцы арганізацыі спэцыяльных рабочых груп па праверцы выкананьня і распрацоўцы новых наказаў саветам.

У справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў калгасы павінны забясьпечыць 100 працантны ўдзел усіх сваіх членаў калгасьнікаў. Кожны калгасьнік павінен ведаць, што „перавыбары саветаў ёсьць самая грунтоўная і ўсебаковая праверка работы кожнага органу савецкай улады, кожнай установы і арганізацыі, іх удзелу ў сацыялістычным будаўніцтве“.

Паколькі калгасьнікі, як правіла, удзельнічаюць у выбарах разам з іншым насельніцтвам вёскі, яны павінны стаць для акаляючага сялянства прыкладам самага актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве.

Таксама калгасьнікі павінны ў час падрыхтоўкі да выбараў у саветы разгарнуць сярод індывідуальнага бядняцка-серадняцкага сялянства работу па шырокаму растлумачэньню і практычнаму паказу пераваг буйнага сацыялістычнага земляробства перад дробнай адзінаасобнай гаспадаркай. Гэта будзе лепшай агітацыяй за калгасы, гэта, бязумоўна, пераканае бедняка і серадняка адзінаасобніка ў неабходнасьці ўступіць на шлях калектывізацыі. Гэта ўзьніме новую магутную хвалю сярод асноўнай масы сялянства за калектывізацыю сельскай гаспадаркі, садзейнічаючы ажыцьцяўленьню лёзунгу аб ліквідацыі кулацтва, як клясы, на аснове суцэльнай калектывізацыі.

Шырокія калгасныя масы ў саюзе з рабочай клясай і з батрацка-бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, павінны даць і дадуць у час перавыбараў у саветы самы рашучы адпор правым апартуністым —агэнтам кулацтва і левым іх саюзьнікам, прарочыўшым правал і няжыцьцёвасьць калгаснага руху.

Усе гэтыя задачы, якія стаяць перад калгасамі ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі, калгасьнікі павінны поўнасьцю вырашыць, скарыстоўваючы такія мэтады сацыялістычнага будаўніцтва, як ударніцтва, сацыялістычнае спаборніцтва і іх вышэйшыя формы—сустрэчны прамфінплян і г. д.

**Кудзінаў.**

---

# Аб падрыхтоўцы жанчын да перавыбараў Саветаў.

Перавыбарчая кампанія саветаў, як масавая палітычная кампанія, якая ахапляе ўсю масу працоўных, павінна яшчэ больш згуртаваць рабочых і асноўныя масы працоўнага сялянства навокал выкананьня намечага XVI партзьездам вялікага пляну сацыялістычнага будаўніцтва, узьняць новую хвалю актыўнасьці рабочых па разгортваньню сацспаборніцтва, вытворчых манэўраў і сустрэчнага прамфінпляну, арганізаваць новы уздым асноўных мас сялянства за калектывізацыю сельскае гаспадаркі, узьняць на вышэйшую ступень ролю саветаў, як кіраўніка рэканструкцыі прамысловасьці і калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Усе гэта ставіць перад усімі гарадзкімі, раённымі і сельскімі арганізацыямі правесьці належную падрыхтоўчую работу сярод усіх працоўных мас і асабліва сярод жанчын, як больш адсталых у сваёй масе, за максымальнае ўцягненьне іх ў перавыбары саветаў.

У мінулыя перавыбары актыўнасьць жанчын значна ўзрасла—яўка на выбары даходзіла да 42 проц. усіх выбаршчыц, павялічыўся ўдзел работніц у складзе гарсавету да 23, 5 проц, сялянак у складзе сельскіх саветаў да 19, 6 проц. у райвыканкомах да 19, 7 проц. і ў ЦВК да 17 проц. Маюцца некаторыя посьпехі па вылучэньню жанчын на кіруючую працу—старшынямі с.-с. 122 жанчыны, 5 жанчын старшынямі Райвыканкомаў і 3 старшыні гарсаветаў і вылучаны на адказную працу ў Наркаматы 5 жанчын. Аднак, у выніку недастатковага кіраўніцтва і дапамогі жанчынам-вылучэнкам

у іх практычнай працы, маецца вялікі адсеў жанчын старшынь сельскіх саветаў і старшынь Райвыканкомаў. Такое пагражаючае становішча на фронце вылучэнства жанчын патрабуе рашучага выпраўленьня ў час выбарчай кампаніі.

У час гэтае кампаніі неабходна ўдзяліць максымальную ўвагу на падбор клясава-вытрыманых кандыдатур жанчын з работніц, батрачак, калгасьніц, беднячак і сераднячак да вылучэньня на кіруючую працу ў саветы і максымальнага павялічэньня іх у складзе саветаў.

Ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, у якой будуць праходзіць перавыбары саветаў, варожыя элемэнты спрабуюць скарыстаць адсталыя жаночыя масы для правядзеньня сваіх кандыдатур у саветы, зрыву кампаніі перавыбараў саветаў, асабліва гэту работу будуць весьці сярод жанчын нацменшасьцяй ксяндзы, равіны і сэктанты. Яны паспрабуюць „падрыхтаваць“ жанчын да выбараў. Адсюль дасканалая падрыхтоўчая работа павінна ахапіць усе слаі працоўных жанчын як па падвышэньню іх актыўнасьці і ўдзелу ў перавыбарах саветаў, так і дачы арганізаванага адпору клясава-варожым элемэнтам у час выбараў.

Падрыхтоўка жаночага актыву праз склікаьне гарадзкіх, сельскіх і раённых нарад жанчын—членаў саветаў, дэлегатак калгасьніц, батрачак павінны заняць асобнае месца з тым, каб кожная жанчына член савету, дэлегатка, калгасьніца-батрачка ўзяла на сябе абавязак па ўцягненьню акаляючай масы работніц і сялянак у перавыбары, каб кожная актывістка ўзяла на сябе адказнасьць за яўку жанчын свайго вучастку на выбары. Неабходна склікаць асобныя сходы па падрыхтоўцы да перавыбараў батрачак і саўгаскіх работніц з тым, каб батрачкі і сельскагасп. работніцы зьявіліся вядучым актывам адсталых мас жанчын. На гэтых сходах неабходна асаблівае значэньне надаць сваечасовай падрыхтоўцы кандыдатур батрачак, каб павялічыць іх удзельную вагу ня толькі ў складзе сельскіх саветаў райвыканкомаў, але і на кіруючай працы ў саветах. Для забясьпечаньня найбольшага ўдзелу жанчын у перавыбарах, апрача склікаьня нарад актыву, неабходна на кожным выбарчым вучастку да выбараў правесьці падрыхтоўчыя масавыя сходы жанчын па пытаньнях выбараў у саветы.

Бытавым Камітэтам пры РВК і бытавым сэкцыям саветаў неабходна разьвярнуць шырокую работу па арганізацыі аднадзённых ясьляў на выбарчых вучастках. Вопыт арганізацыі гэткіх у мінулыя перавыбары паказаў, што праз прыцягненьне сродкаў грамадзкіх арганізацый, ініцыятывы КСМ піанэрарганізацыі і школ можна шырока разгарнуць работу і гэтым даць магчымасьць маткам прыняць большы ўдзел у перавыбарах. Побач з гэтым работу ўжо існуючых дзіцячых установ неабходна таксама прыстасаваць да часу перавыбараў.

Бытавым Камісіям і сэкцыям неабходна прасачыць каб у справаздачах саветаў і ў наказах выбаршчыкаў была асьветлена праца саветаў у справе выкананьня асноўных задач па разгортваньню бытавых устаноў і ўсей іх дзейнасьці па палепшаньню працы і быту жанчын.

Усю падрыхтоўчую да перавыбараў работу сярод жанчын неабходна паставіць на рэйкі сацыялістычнага спаборніцтва і пераклічкі паміж дэлегацкімі сходамі, сходамі калгасьніц, нарадамі актыву жанчын за лепшую падрыхтоўку, за найбольшую яўку працоўных жанчын на выбары саветаў.

**Майзіт.**

---

**Уперад за саўгасы і калгасы—галоўную апору савецкай улады на вёсцы.**

# Аб удзеле КСУ у перавыбарах саветаў.

Зараз, пры разгорнутым сацыялістычным будаўніцтве прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, пры рашучым наступленьні на капіталістычные элемэнты гораду і вёскі, пры ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, перавыбары Саветаў, як важнейшая палітычна-масавая кампанія набывае як ніколі асабліває значэньне і патрабуе ад усіх савецкіх, партыйных, камсамольскіх, прафэсыянальных і грамадзкіх арганізацый выключнай увагі і мабілізацыі ўсіх рабочых, калгасьнікаў, батрацтва і бядняцка-серадняцкіх мас на пасьпяховае правядзеньне гэтае кампаніі, на ўзмацненьне саветаў, як органаў пралятарскай дыктатуры на вёсцы, на барацьбу з кулацтвам і іх падгалоскамі, якія будуць імкнуцца пралезьці ў саветы, каб дэзарганізаваць іх работу.

На камітэты сялянскіх т-ваў узаемадапамогі, як адну з буйнейшых грамадзкіх арганізацый батрацтва і бядняцка-серадняцкіх мас на вёсцы, у правядзеньні перавыбараў саветаў, ускладаецца надзвычайна важная, вялікая і адказная праца.

Камітэты разам з сваім актывам, батрацтвам, беднатой і актыўнейшай часткай серадняцтва, павінны мабілізавацца на дапамогу партыйным і савецкім органам у справе пасьпяховага правядзеньня гэтай кампаніі, на падбор у Саветы новых кандыдатур здольных праводзіць палітыку партыі і ўлады на вёсцы, здольных кіраваць калгасным будаўніцтвам і ўсімі правадзімымі палітычна-гаспадарчымі кампаніямі на вёсцы.

У час справаздачна-перавыбарчых сходаў, камітэты разам з маючыміся пры іх групамі беднаты павінны стаць ініцыятарамі арганізацыі сапраўднай бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі па рабоце саветаў. Павінны арганізаваць масы на праверку работы Саветаў у напрамку, як савет праводзіў у жыцьцё рашэньні партыі і ўлады; па разгортваньню калектывізацыі, па кіраўніцтву і арганізацыйна-гаспадарчаму замацаваньню калгасаў, як праводзіў усе палітычна-гаспадарчыя кампаніі, як змагаўся з ліквідацыяй прарываў і безгаспадарчасьцю ў калгасах, як скарыстаў ініцыятыву мас па арганізацыі сацспаборніцтва і ўдарніцтва, як вёў барацьбу з клясава-варожымі элемэнтамі і кулацтвам, якія перашкаджаюць сацыялістычнаму будаўніцтву вёскі.

Разам з гэтым камітэты павінны ўзяць пад абстрэл дзелавой самакрытыкі працу савета адносна кіраўніцтва і практычнай дапамогі па ўзмацненьні працы КСУ, па ліквідацыі тых буйных прарываў у працы КСУ, якія маюцца на сёнешні дзень.

Камітэты праз свой актыў вёскі і групы беднаты, павінны прыняць усе захады да таго, каб справаздачна-перавыбарчыя сходы забясьпечыць паўнейшай яўкай выбаршчыкаў, для чаго зараз-жа павінны прыступіць да растлумачальнай работы сярод выбаршчыкаў аб важнасьці гэтае кампаніі і неабходнасьці з іх боку актыўнага ўдзелу.

У мэтах найбольшага прыцягненьня на выбарчыя сходы жанчын, камітэты разам з каапэрацыйнымі арганізацыямі павінны на кожным выбарчым вучастку арганізаваць спэцыяльныя дзіцячыя пакоі, вылучыўшы з фонду КСУ для гэтае мэты належныя сродкі.

У выбарчыя камісіі саветаў КСУ павінны вылучыць сваіх лепшых клясава-вытрыманых прадстаўнікоў, якія цьвёрда стаялі на пазыцыі барацьбы за калгасы і мерапрыемствы партыі і ўраду.

Камітэты павінны дапамагчы выбарчым камісіям у выяўленьні ўсіх асоб пазбаўленых выбарчых правоў, прыняўшы ўсе захады да таго, каб гэтакіх ні ў якім разе не дапусьціць на справаздачна-выбарчыя сходы. КСУ павінны выяўляць усе групіроўкі кулацтва, якія будуць імкнуцца сарваць гэтую важную кампанію. Гэтаму імкненьню Камітэты павінны супроцьпаставіць мабілізацыю ўсіх батрацкіх і бядняцка - серадняцкіх мас на барацьбу з кулацтвам і іх прыхільнікамі для дачы ўсім ім рашучага адпору.

Справаздачна-перавыбарчую кампанію саветаў, камітэты павінны выкарыстаць на ліквідацыю прарываў маючыхся ў іх працы, на падрыхтоўку да вяснавой пасеўнай кампаніі, на спагнаньня насенна-

грашовых пазык і членскіх узносаў. Камітэты павінны паставіць перад сабой як адну з важных першачарговых задач—да 1-га студзеня 1931 г. цалкам выканаць заданьня па загатоўцы насенных матарыялаў да сяўбы, па арганізацыі сацспаборніцтва і ўдарніцтва за лепшае правядзеньне ўсіх мерапрыемстваў вызначаных па плянам вяснавой сяўбы.

Справаздачна-перавыбарчую кампанію камітэты таксама павінны выкарыстаць на рашучую перабудову сваёй працы ў напрамку пасьпяховага выкананьня ўсіх тых задач, якія стаяць зараз на вёсцы,—гэта калектывізацыя сельскае гаспадаркі праз арганізацыю новых калгасаў і першапачатковых сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў і ўцягненьня ў гэтакія батрацтва і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, аказваючы ім усямерную дапамогу і адначасова не забываючы аказваць дапамогу адзіналічным бядняцкім і маламоцна-серадняцкім гаспадаркам.

Камітэты павінны стаць сапраўднымі дапаможнікамі саветаў у выкананьні ўсіх тых задач, якія на іх ускладаюцца і асабліва па выкананьні пяцігадовага пляну ў чатыры гады, памятаючы, што калектывізацыя ў асноўным павінна быць закончана к канцу 1932 году, што кулацкая гаспадарка павінна быць заменена калгасамі і саўгасамі, а кулак зьнішчан, як кляса.

**П. Асіпчык.**

---

## Прэч з пасад бюракратаў, якія тармазяць разгорнутае бальшавіцкае наступленьне па ўсім фронце.

---

## Дэпутацкія групы гарсавету за падрыхтоўку да перавыбараў саветаў.

Паводле пастановы ЦВК БССР справаздачна-перавыбарчая кампанія гарсаветаў будзе праводзіцца з 1 студзеня па 10 лютага. Да гэтага тэрміну засталося толькі 2 месяцы. Усім гарсаветам на працягу гэтага часу неабходна мабілізаваць усю грамадзкасьць на падрыхтоўку справаздачна-перавыбарчае кампаніі. Асноўнаю ячэйкаю ў сыстэме савецкае грамадзкасьці зьяўляюцца дэпутацкія групы на прадпрыемствах. Як вядома, мэта іх—устанаўленьне ўзаемнай сувязі членаў гарсавету з выбаршчыкамі рабочымі праз шырокае ўцягненьне іх у савецкае будаўніцтва з адначасовым абслугоўваньнем іх патрэб і запытаньняў. Адсюль на дэпутацкія групы пры ўсіх прадпрыемствах гарсаветам у гэтым годзе неабходна ўзлажыць значную частку работы па арганізацыі падрыхтоўкі да правядзеньня справаздачна-перавыбарчых сходаў. Своечасовае разгортваньне гэтае работы забясьпечыць пасьпяховае правядзеньне перавыбараў гарсаветаў.

Правесьці гэтую работу неабходна яшчэ і затым, што надыходзячая справаздачна-перавыбарчая кампанія будзе праходзіць на парозе трэцяга рашаючага году пяцігодкі, выкананьне праграмы якога ставіць перад намі ўдарную задачу ўзмацненьня гарсаветаў—органаў кіраўніцтва—новымі тысячамі лепшых пралятарыяў, новымі тысячамі перадавых барацьбітаў за сацыялістычнае будаўніцтва.

Вось з гэтага і павінна выплываць палітычная ўстаноўка ў справе падрыхтоўкі і правядзеньня перавыбараў гарсаветаў. Справаздачна-перавыбарчая кампанія ў гэтым годзе павінна праходзіць пад знакам шырокага агляду дзейнасьці гарсаветаў, асабліва ў галіне павароту іх да вытворчасьці і шырокае арганізацыі творчае энэргіі і энтузіязму рабочых мас для выкананьня вялізарнейшых плянавых заданьняў трэцяга рашаючага году пяцігодкі.

З усіх кампаній, якія мы толькі праводзім, справаздачна-перавыбарчыя зьяўляюцца найбольш масавымі.

Высунутыя партыяй і савецкай уладай перад працоўнымі масамі на трэцім годзе пяцігодкі задачы ставяць перад намі рашучае пытаньне зрабіць справаздачна-перавыбарчую кампанію саветаў у гэтым годзе, яшчэ больш масавою. Нам неабходна ў гэтую кампанію ўцягнуць пагалоўна ўсю рабочую масу. Дасягненьне гэтае мэты ў значнай ступені залежыць ад актыўнасьці і энэргіі дэпутацкіх груп, якія па бальшавіцку ў гэтую кампанію павінны ўскалыхнуць шырачайшыя пласты рабочых мас на тое, каб яны па сапраўднаму ўліліся ў баявыя масавыя атрады па праверцы нашае работы і сваёю актыўнасьцю забясьпечылі яе далейшыя посьпехі.

Тое вялізарнае палітычнае значэньне, якое надаецца справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў гэтым годзе, ставіць перад дэпутацкімі групамі задачу зараз жа прыступіць к падрыхтоўцы да гэтае кампаніі.

Адным з першых і практычных мерапрыемстваў, якія павінны правесьці дэпутацкія групы на прадпрыемствах, зьяўляецца арганізацыя справаздач паасобных членаў гарсаветаў па цэхам.

Пры арганізацыі гэтых справаздач неабходна ўлічыць усе недахопы мінулых гадоў, калі гэтыя справаздачы праводзіліся так, што ня ўсе дэпутаты рабілі іх перад сваімі выбаршчыкамі і нават тыя, якія і рабілі гэтыя справаздачы да іх не падрыхтоўваліся і таму не маглі зацікавіць выбаршчыкаў. Мелі мейсца і такія выпадкі, калі некаторыя дэпутаты толькі за некалькі хвілін да свае справаздачы даставалі наказы выбаршчыкаў і за гэтым не маглі даць вычэрпываючых адказаў па кожны пункт данных наказаў.

Дэпутацкія групы павінны гэтыя моманты ўлічыць і падрыхтоўку да справаздачы распачаць зараз-жа. Тым дэпутатам, каторыя па якім небудзь прычынам ня маюць наказаў выбаршчыкаў, безадкладна адшукаць іх і праверыць сваю работу па выкананьню кожнага пункту наказу на мейсцы з тым, каб у вызначаным гарадзкімі выбарчымі камісіямі дні выйсьці на выбарчы сход узброеным достатковымі і канкрэтнымі матар'яламі аб сваёй дзейнасьці.

Гарадзкім выбарчым камісіям зараз жа трэба зладжыць каляндарныя пляны справаздачна-перавыбарчае кампаніі і давесьці іх да кожнага прадпрыемства і ўстановы, а на абавязак дэпутацкіх груп узлажыць задачу давесьці гэтыя пляны да кожнага цэху, да кожнага рабочага. Адначасова з гэтым гарадзкія выбарчыя камісіі павінны арганізаваць калектыўную справаздачу дэпутацкіх груп перад сваімі выбаршчыкамі.

Пры гэтай арганізацыі неабходна ўлічыць, што мінулагодняя справаздачы па свайму зьместу—складанымі статыстычнымі і сухімі зьвесткамі і паведамленьнямі аб колькасьці наведаных дэпутатам пасяджэньняў, праведзеных абсьледваньняў, зробленых у спрэчках выступленьняў і інш.—пры сучасным шырока разгорнутым сацыялістычным наступе на капіталістычныя элемэнты па ўсяму фронту задаволіць выбаршчыкаў ня змогуць.

Справаздачы гэтага году павінны будавацца па такой форме, каб галоўны упор зрабіць на жывым зьмесьце праробленае кожным дэпутатам рабоце, з асаблівым падкрэсьліваньнем, у якой меры гэта работа адбівала выкананьне запатрабаваньняў сваіх выбаршчыкаў. Такія адказы, як пункт (такі-та) наказу выканан, а такі та ня выканан, не павінны мець месца. Яны павінны быць пабудаваны у такім напрамку, каб яскрава паказаць ня толькі ўдзел даннага дэпутата ў рабоце гарсавету, сэкцыі, але і тое, як ён праявіў сябе на вытворчасьці і ці адпавядаў удзел яго ў сацыялістычным будаўніцтве той высокай годнасьці дэпутата органа пралетарскае дыктатуры, якую ён насіў па волі выбаршчыкаў.

Гэты момант на данным этапе павінен быць рашаючым.

Гарадзкія выбарчыя камісіі павінны зараз-жа склікаць нарады дэпутацкіх груп і дапамагчы ім зладжыць справаздачы па вышэйпаказаным формам.

Пры падрыхтоўцы да справаздачна-перавыбарчае кампаніі гэтага году трэба памятаць, што яна будзе праходзіць пры яшчэ больш абвостранай клясавай барацьбе, чым у мінулыя гады. Ня зьліквідаваныя яшчэ рукою пралетарыяту: нэпманы, „бышыя людзі“ розных

колераў і кулакі пры падтрымцы гарадзкіх і местачковых абывацеляў будуць living рознымі спосабамі рабіць попыт, каб улажыць палкі ў калясо нашага шпарка разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва. Нам ужо ня раз прыходзілася чуць, што гэта сацыяльная пластоўка імкнулася сьпекульнуць на часовых цяжкасьцях нашага росту.

Яна выкарыстоўвае ўсякія способы ўзьдзейнічаньня на рабочую клясу і іншае працоўнае насельніцтва.

На вялікі жаль, прыходзіцца канстатаваць, што водгук гэтага ўзьдзейнічаньня знаходзіць яшчэ месца ня толькі сярод неарганізаванага ў прафсаюзы і калгасы працоўнага насельніцтва нашых гарадоў і вёсак, але і сярод паасобных адсталых рабочых, калгасьнікаў і беднаты.

Вось гэтыя абставіны высоўваюць перад намі задачу яшчэ пільней правяраць сьпісы выбаршчыкаў, бо ні водзін гарсавет ня можа заверыць, што на яго тэрыторыі выяўлены ўсе тыя элемэнты, якім па нашаму законадаўству забаронена прысутнічаць там, дзе працоўныя масы, як непасрэдныя будаўнікі сацыялізму, вырашаюць свае важнейшыя пытаньні, выбіраюць прадстаўнікоў у органы дыктатуры пралетарыяту.

Дэпутацкія групы, як шырока-масавыя арганізацыі, у справе выяўленьня ворагаў пралетарыяту могуць аказаць гарсаветам шырокую дапамогу.

Праверку сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, трэба праводзіць не апаратным шляхам праз даручэньні квартальным наглядчыкам, а надаваць ёй шырокі грамадзкі характар праз уцягненьне ў гэту работу ўсей масы выбаршчыкаў.

Аднак, і ў гэтым выпадку неабходна ўважліва сачыць, каб па недбайнасьці, або непаразуменьню ў сьпісы пазбаўленых не пападалі і такія грамадзяне, якія паводле нашага законадаўства не падлягаюць пазбаўленьню выбарчых правоў.

Усю падрыхтоўчую работу да справаздачнае кампаніі ў гарадох трэба арганізаваць так, каб ужо зараз на кожным прадпрыемстве і ў кожнай установе стварыць такую атмасфэру, каб работа гарсаветаў да моманту перавыбараў стаяла ў цэнтры ўвагі ўсіх працоўных. Дасягнуць гэтага можна праз перанясеньне справы папулярызацыі савецкага будаўніцтва ў чырвоныя куткі, бібліатэкі, клюбы, грамадзкія сталоўкі і іншыя месцы збораў працоўных. Патрэбна для гэтага цалкам выкарыстоўваць абедзеныя перапынкі на прадпрыемствах і ўстановах.

Усім дэпутацкім групам неабходна дабіцца, каб кожная завадзкая арганізацыя па сваёй лініі адбівала работу па падрыхтоўцы і правядзеньні справаздачна-перавыбарчае кампаніі, для чаго неабходна цесна зьвязацца з рабочымі калектывамі фабкомамі, заўкомамі, культсэктарамі, рэдкалегіямі насьценных і шматтыражных газэт і іншымі арганізацыямі. Гарсаветам неабходна зараз жа забясьпечыць дэпутацкія групы, клюбы, бібліатэкі, чырвоныя куткі і месцы зборышч працоўных мас неабходнымі матар'яламі (лёзунгамі, плякатамі, дыаграмамі і г. д.) для навочнай агітацыі і папулярызацыі як усей справаздачна-перавыбарчай кампаніі так і ўсей дзейнасьці гарсаветаў.

Да ўсяго сказанага трэба дадаць, што ўсю работу па правядзеньні справаздачна-перавыбарчае кампаніі гарсаветы павінны арганічна зьвязаць з вытворчымі задачамі кожнага калектыву выбаршчыкаў, з выкананьнем прамфінпляну кожнага прадпрыемства і гэтымі вузлавымі момантамі запоўніць справаздачы ня толькі свае і дэпутацкіх груп, але і наказы выбаршчыкаў.

Праведзеная такім чынам работа зробіць справаздачна-перавыбарчую кампанію гэтага году магутным рычагом, які дапаможа нам падняць на адпаведную вышыню барацьбу за пасьпяховае і поўнае выкананьне праграмы 3-га году пяцігодкі.

М. Байкаш.

# Аб удзеле арганізацый ваяўнічых бязбожнікаў БССР у перавыбарах саветаў.

У сьнежні г. г. па ўсёй БССР пачнецца кампанія перавыбараў саветаў; кампанія гэта мае вялізарнае палітычнае значэньне. Выбары ў саветы будуць праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, калі кулацтва і іншыя капіталістычныя элемэнты будуць аказваць актыўнае супраціўленьне сацыялістычнаму наступу, рабіць спробу затрымаць рост сацыялістычнай індустрыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, і вайсьці ў саветы для зрыву іх работы.

Выбары новых саветаў, падбор у іх людзей, набывае асаблівую важнасьць зараз у пэрыяд разгорнутага сацыялістычнага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і ліквідацыі кулацтва як клясы, на падставе суцэльнай калектывізацыі. Неабходна ў новы склад саветаў выбраць людзей здольных на справе праводзіць генэральную лінію партыі, здольных арганізаваць масы на далейшы сацыялістычны наступ, на бальшавіцкія тэмпы работы.

Для саюзу ваяўнічых бязбожнікаў кампанія па перавыбарах саветаў набывае асабліва важнае значэньне. Арганізацыі ваяўнічых бязбожнікаў павінны прыняць актыўны ўдзел у вылучэньні людзей у саветы, у аказаньні дапамогі органам савецкай улады ў справе ачышчэньня саветаў ад чуждых і нягодных элемэнтаў асабліва ад асоб непасрэдна зьвязаных з дзейнасьцю клерыкальных і сэктанцкіх арганізацый. Неабходна прыняць самы актыўны ўдзел у апрацоўцы наказаў уноў абіраемым саветам у мэтах палепшаньня справы культурна-бытавога абслугоўваньня працоўных. Неабходна завастрыць увагу працоўных на выкананьне дырэктыў 16-га зьезду партыі адносна таго, што антырэлігійная прапаганда павінна быць правільна арганізавана і ўзмоцнена, што неабходна паглыбіць работу па аслабаненьню мас ад рэакцыйнага ўплыву рэлігіі.

У дапамогу выбарчым камісіям ад ячэяк ваяўнічых бязбожнікаў павінны быць вылучаны групы актывістых, якім трэба даручыць праверку сьпісаў выбаршчыкаў у мэтах выяўленьня асоб, пазбаўленых выбарчых правоў згодна канстытуцыі БССР. Самі члены ваяўнічых бязбожнікаў павінны даць прыклад 100 процантнай яўкі на справаздачныя і перавыбарчыя сходы; пры гэтым неабходна, каб члены СВБ у сваіх выступленьнях разаблачалі шкодную дзейнасьць рэлігійных арганізацый. Неабходна каб бязбожнікі сачылі за тым, каб на кожным прадпрыемстве, у саўгасе, калгасе, установе і школе і воінскіх частках былі ячэйкі ваяўнічых бязбожнікаў. Неабходна каб антырэлігійная прапаганда праводзілася сыстэматычна і штодзённа, а ня шляхам кампанейскім як гэта было да гэтага часу.

Неабходна ў наказы ўносіць прапановы, каб ячэйкі ваяўнічых бязбожнікаў ухіляліся ад адміністрацыйных мерапрыемстваў барацьбы з рэлігіяй. Неабходна, каб будынкі рэлігійнага культу забіраліся пад культурныя ўстановы пасьля таго, як сярод працоўных будзе праведзена належная антырэлігійная праца і будуць сабраны подпісы працоўных, з хадайнічаньнем аб перадачы будынкаў рэлігійнага культу пад культурныя ўстановы. Неабходна, каб тыя будынкі рэлігійнага культу, якія забраны і ня выкарыстаны да гэтага часу, былі безадкладна прыстасованы пад культурныя ўстановы.

Бязбожныя арганізацыі павінны даць самы рашучы адпор усім спробам духоўнікаў і сэктантаў сарваць перавыбарчую кампанію шляхам актывізацыі дзейнасьці рэлігійных арганізацый. Шырока разаблачаць спробы кулакоў і сэктантаў арганізоўваць розныя „маленьні“ ў тыя дні і гадзіны, калі прызначаюцца справаздачныя альбо перавыбарчыя сходы саветаў.

Перавыбарчыя і справаздачныя сходы саветаў павінны быць выкарыстаны і для таго, каб пашырыць падпіску на антырэлігійную пэрыодычную літэратуру. Газэта „Бязбожнік“, часопіс „Бязбожнік“, часопіс „Антырэлігійнік“ і часопіс „Деревенский безбожник“ вельмі мала распаўсюджана, асабліва на вёсцы. Неабходна праштурхваць бязбожную

кнігу на вёску. Бязбожная літаратура зьяўляецца найлепшым сродкам аслабаненьня мас ад рэлігійнага яду.

Справаздачныя перавыбарчыя сходы саветаў павінны зьявіцца вынікам павялічэньня арганізацыі ваяўнічых бязбожнікаў БССР ня менш, як у 2 разы. У сучасны момант ёсьць такія раёны, у якіх членаў ваяўнічых бязбожнікаў налічваецца менш тысячы. Арганізацыя ваяўнічых бязбожнікаў павінна зрабіцца масавай арганізацыяй. Антырэлігійная прапаганда павінна быць узмоцнена ў першую чаргу ў сацыялістычным сэктары гораду і вёскі. Зараз у бязбожнай справе наглядаецца такое зьявішча, што антырэлігійная прапаганда часам не ўзмацняецца, а паслабляецца. Гэта adносіцца галоўным чынам да бязбожнай работы сярод нацменшасьцяй БССР. Зараз, як ніколі, антырэлігійная прапаганда павінна быць узмоцнена. Павінна быць разгорнута рашучая барацьба з рэлігіяй, як ідэолёгіяй буржуазнай. Трэба выкрываць клясавую сутнасьць рэлігіі, увязваць антырэлігійную прапаганду с сацыялістычным будаўніцтвам і весьці барацьбу за новы бязбожны быт. Неабходна змагацца з права-апартуністычнымі адносінамі да бязбожнай работы, з нэдаацэнкай важнасьці гэтай працы, а гэта зьявішча наглядаецца ў нас у большасьці раёнаў.

**Даўгаполаў.**

---

## Аб выбарчым вучоце і справаздачнасьці.

Усякі вучот і справаздачнасьць, будучы тэхнічнымі па форме, па сваім зьместе маюць палітычнае значэньне, бо яны не залежна ад характару пытаньняў, якія ў іх адбіваюцца, аснованы па пэўных палітычных мерапрыемствах, накіраваных на ажыцьцяўленьне іх. Гэта значыць, што вучот і справаздачнасьць зьяўляюцца тымі сродкамі, на падставе якіх мы падлічаем усебаковыя вынікі нашых мерапрыемстваў, робім з іх адпаведныя палітычныя вывады і на падставе іх замацоўваем і пашыраем лепшыя мэтады па ўсіх галінах нашай работы і прымаем патрэбныя меры для недапушчэньня ў далейшым меўшых месца недахопаў.

На вялікі жаль нашы савецкія органы асабліва нізавыя, не заўсёды аддаюць належную ўвагу пытаньням вучоту вынікаў ня толькі па ўсіх галінах нашых палітычна-гаспадарчых мерапрыемстваў, але часам нават і па важнейшых з іх.

Возьмем да прыкладу такую найважнейшую палітычна-масавую кампанію як перавыбары саветаў. Здавалася-б, што на прахаджэньне гэтай кампаніі і на справаздачнасьць па ёй павінна быць зьвернута з боку саветаў і выканкомаў самая сур'ёзная ўвага, маючы на ўвазе, што ў працэсе перавыбараў саветаў адбываюцца ўсе палітычныя і эканамічныя моманты як мерапрыемстваў партыі і савецкай улады па ўмацаваньні органаў дыктатуры пралетарыяту—саветаў, каб яны сапраўды сталі на чале сацыялістычных інтарэсаў нашай краіны, поўнасьцю забясьпечылі тэмпы індустрыялізацыі і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і на базе суцэльнай калектывізацыі ліквідацыю кулацтва як клясы гэтак і імкненьне клясава-варожых нам элемэнтаў, асабліва кулацтва сарваць нашы мерапрыемствы, пралезьці ў саветы, дэзарганізаваць іх работу і гэтым самым пашкодзіць рашучаму наступленьню сацыялізму на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі.

Аднак, ня гледзячы на ўсю палітычную важнасьць кампаніі перавыбараў саветаў, некаторыя ня толькі саветы, але нават і райвыканкомы не падвялі канчатковых вынікаў частковых перавыбараў саветаў, якія праводзіліся вясною гэтага году, альбо падвялі іх з вельмі вялікім спазьненьнем.

Зразумелая справа, што такое зьявішча нельга лічыць нармальным і дапусьцімым.

У чарговую справаздачна-перавыбарчую кампанію саветаў трэба дабіцца, каб увесь выбарчы вучот, статыстычную і інфармацыйную справаздачнасьць паставіць на такую ступень, якую вымагаюць агульна-палітычныя задачы сам і

перавыбараў саветаў у сучасны рэканструкцыйны пэрыяд.

У сувязі з гэтым неабходна зьвярнуць увагу саветаў і райвыканкомаў на парадак вядзеньня найбольш складаных і найбольш важнейшых форм вучоту і складаньне статыстычнай і інфармацыйнай справаздачнасьці, маючы на ўвазе, што ў гэтую справаздачна-перавыбарчую кампанію формы вучоту і справаздачнасьці перапрацаваны і зьяўляюцца некалькі новымі, хаця яны па сваёй складанасьці больш простыя і лепш зразумелыя.

Вельмі важнае значэньне мае вучот выбаршчыкаў і асоб, пазбаўленых выбарчага права. Выбарчым камісіям і саветам трэба дабіцца такое пастаноўкі вучоту выбаршчыкаў, каб ён быў сугуба правільным, поўным і акуратным, гэта значыць, каб кожны выбаршчык быў абавязкова падлічан, а кожная асоба, якая згодна выбарчага законадаўства Саюзу ССР і БССР павінна быць пазбаўлена выбарчых правоў, ні ў якім разе апошнімі не карысталася. Адначасова выбарчыя камісіі павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на недапушчэньне якіх-б там ня было перагібаў у адносінах да серадняка і іншых працоўных, маючы на ўвазе, што ўсякія перагібы ў адносінах няправільнага пазбаўленьня выбарчых правоў зьяўляюцца так-жа шкоднымі, як і дапушчэньне да карыстаньня выбарчымі правамі асоб, якіх савецкае выбарчае законадаўства пазбаўляе апошніх.

Пры складаньні сьпісаў выбаршчыкаў трэба памятаць, што яны складаюцца асобна на кожным выбарчым вучастку. Гэта павінна рабіцца для таго, каб сьпіс бяз усякіх перашкод мог быць перададзен упаўнаважанаму выбарчай камісіі, якому даручана правесьці выбарчы сход на адпаведным выбарчым вучастку, для вучоту зьявіўшыхся на выбары шляхам адпаведных адзнак у графе „Увага“. Усе графы сьпісу павінны адначасова запаўняцца пры занясеньні выбаршчыка ў сьпіс, пры чым у графе 7 сьпісу аб сялянах, якія не зьяўляюцца членамі калгасаў, паказваецца сума сельгаспадатку на аднаго едака ў гаспадарцы, членам якое ён зьяўляецца, а таксама робяцца наступныя адзнакі:

а) для тых, што плацяць сельгаспадатак з надбаўкай—„з надбаўкай“;

б) што без надбаўкі—„без надбаўкі“;

в) што аслабанёны ад сельгаспадатку—„аслабанён“.

Можна такія адзнакі рабіць і іншымі словамі, але трэба мець на ўвазе, каб яны былі зразумелымі ня толькі для таго хто гэтыя адзнакі рабіў, але і для тых работнікаў, якія будуць мець дачыненьне да сьпісаў выбаршчыкаў і выбарчай справаздачнасьці ў далейшым.

Таксама вельмі вялікае значэньне маюць выбарчыя позвы, якія павінны пасылацца абавязкова кожнаму выбаршчыку ці выбаршчыцы. Іх значэньне галоўным чынам заключаецца ў тым, што дзякуючы пасылцы і даручэньню кожнаму выбаршчыку позвы забясьпечваецца пагалоўнае абвяшчэньне выбаршчыкаў аб часе і месцы выбарчых сходаў і што атрыманьне кожным выбаршчыкам позвы маральна абавязвае апошняга зьвіцца на выбарчы сход, прыняць актыўны ўдзел у перавыбарах савету чым гарантуецца большы ўдзел асноўных мас выбаршчыкаў у выбарах важнейшых органаў савецкай дзяржавы—органаў дыктатуры пралетарыяту.

Такім чынам мы бачым, што выбарчыя позвы зьяўляюцца пытаньнем палітычнага парадку, бо яны дапамагаюць кожнаму выбаршчыку сапраўды зьдзейсьніць свае палітычныя правы і прыняць актыўны ўдзел у кіраўніцтве савецкай дзяржавай, удзельнічаючы ў перавыбарах саветаў і будучы абраным у склад іх органаў.

Выбарчыя позвы ў чарговую перавыбарчую кампанію маюць яшчэ і тэхнічнае значэньне ў тым, што з карэнчыкаў іх, якія запаўняюцца адпаведнымі данымі аб кожным выбаршчыку, складаюцца статыстычныя весткі па форме № 13 у сельскіх мясцовасьцях і па форме № 15 у гарадох аб складзе выбаршчыкаў і ўдзел іх у выбарах. З гэтаю мэтай карэнчыкі позваў павінны быць запоўнены пры выпісцы і пасылцы для даручэньня выбаршчыку позвы, прычым па п. 3 карэнчыка позвы для некалгасьнікаў павінны быць зроблены наступныя адзнакі: для аслабанёных ад сельгаспадатку—

„аслабанен“, для плацячых сельгаспадатак без надбаўкі—„без надбаўкі“, а для тых, што плацяць падатак з надбаўкай слова „некалгасьнік“ толькі падкрэсьліць, альбо дапісаць „з надбаўкай.

Маючы на ўвазе, што з карэнчыкаў выбарчых позваў будуць складацца вышэйпамянёныя статыстычныя весткі, саветам трэба прасачыць за тым, каб яны пасьля даручэньня позвы выбаршчыку былі абавязкова здадзены ў савет, бо ў супраціўным выпадку гэтыя весткі давядзецца складаць са сьпісаў выбаршчыкаў, што патрэбуе вельмі многа часу.

У гэтую выбарчую кампанію, як і ў мінулыя, саветы і выканкомы павінны будуць падаваць у ЦВК БССР папярэднія тэлеграфныя весткі праз кожныя 10 дзён спачатку кампаніі. Для таго, каб патаніць каштоўнасьць перадачы гэтых вестак па тэлеграфу неабходна падаваць іх шыфраванымі тэлеграмамі наступным парадкам: першыя дзьве лічбы кожнага шыфру азначаюць графу вестак, а наступныя за імі—даныя гэтай графы, напрыклад: каб выразіць шыфрам графу першую вестак, якая адзначае „лік саветаў, або вучасткаў гораду, па якіх праведзены выбары“, і паказаць, што па якому небудзь раёну выбары скончаны па 10 саветах, неабходна паказаць гэта лічбай 0110. У гэтым шыфры першыя дзьве лічбы (01) азначаюць графу вестак, а наступныя (10)—даныя гэтай графы, гэта значыць, што выбары праведзены па 10 саветах, або у частках гораду, калі весткі падаюцца аб выбарах у гарадзкі савет.

Такія весткі павінны падавацца асобна па сельскіх, асобна па местачковых і асобна па сельскіх нацыянальных і местачковых нацыянальных.

Замест існаваўшых раней сьпісаў абраных у склады саветаў і выканкомаў, зараз будуць складацца асабовыя карткі па форме № 12. Памятуючы аб тым, што з гэтых картак павінны будуць распрацоўвацца статыстычныя весткі аб складах органаў улады, неабходна дабіцца таго, каб яны былі запоўнены на кожнага абранага ў склад савету ці выканкому зараз-жа пасьля выбараў, а на дэлегата зьезду пры яўцы яго на зьезд, бо інакш магчыма зацягваньне складаньня аб іх адпаведных статыстычных вестак чым будуць парушацца тэрміны падачы гэтых вестак у вышэйшыя органы.

У гэтую выбарчую кампанію формы статыстычных вестак аб складзе выбаршчыкаў і зьявіўшыхся на выбары, асобах пазбаўленых выбарчага права, а таксама аб складзе органаў улады значна спрошчаны і больш зразумелы, чым раней існаваўшыя, але для таго, каб яны своечасова і правільна складаліся, неабходна добра ведаць тэхніку складаньня іх. Да такіх форм адносяцца статыстычныя весткі па форме № 13 у сельскіх мясцовасьцях і па форме № 15 у гарадох.

Весткі па форме № 13 і 15 аб складзе выбаршчыкаў і зьявіўшыхся на выбары, як гэта паказана вышэй, павінны складацца з карэнчыкаў выбарчых позваў наступным парадкам: з пачатку карэнчыкі позваў раскладаюцца па полу выбаршчыкаў і па падлічэньні іх запаўняюцца графы 4 і 5, пасьля па нацыянальнасьці і запаўняюцца графы 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13 і 14 і г. д.

Пасьля таго, як будуць такім парадкам складзены весткі аб складзе ўсіх выбаршчыкаў, з усіх карэнчыкаў выбіраюцца тыя з іх, якія выбаршчыкі зьявіліся на выбарчыя сходы. Для гэтага папярэдне трэба зрабіць адзнакі на карэнчыках позваў, што даны выбаршчык зьявіўся на выбарчы сход (адзнакі аб яўцы на выбарчы сход робяцца на карэнчыках позваў пад тымі нумарамі, якія па сьпісу выбаршчыкаў маюць адзнакі аб яўцы.)

Такая-ж тэхніка складаньня вестак аб складзе выбарчых органаў, але ўжо з асабовых картак па форме № 12.

Надзвычайна важнай выбарчай справаздачнасьцю зьяўляецца інфармацыйная сводка па форме № 18. Яна павінна адбіваць ход падрыхтоўчай работы да перавыбараў і асабліва ход і вынікі справаздачна-перавыбарчай кампаніі. Усе моманты, як з палітычнага, гэтак і з тэхнічнага боку правядзеньня кампаніі павінны быць адбіты ў інфармацыйных зводках.

Для таго, каб не зацягваць складаньня статыстычных вестак, неабходна пасьля кожнага выбарчага сходу заразжа скласьці весткі па тым выбарчым вучастку, на якім ужо праведзены выбары, асабліва аб складзе выбаршчыкаў і ўдзеле іх у выбарах. Гэта забясьпечыць магчымасьць своечасовай падачы іх у адпаведныя вышэйстаячыя органы. Для складаньня статыстычных вестак асобна па кожнаму выбарчаму вучастку зусім непатрэбны спэцыяльныя бланкі гэтых вестак (з прычыны абмяжованай колькасьці), калі весткі складаць у наступным выглядзе:

(Па разьдзелу аб выбаршчыках і ўдзелу іх у выбарах (форма № 13.)

| | Мела выбарчае права | Зьявілася на выбары |
|---|---|---|
| 3. Усяго выбаршчыкаў . . . . . | 2.500 | 2.200 |
| 4. Мужчын . . . | 1.200 | 1.150 |
| 5. Жанчын . . . | 1.300 | 1.050 |
| 6. Беларусаў . . . | 2.000 | 1.900 |
| 7. Яўрэяў . . . . | 200 | 190 |

Цэнтральная выбарчая камісія вызначыла пэўныя тэрміны падачы ў ЦВК БССР статыстычнай і інфармацыйнай справаздачнасьці. Для таго, каб вызначаныя тэрміны не парушаліся, трэба саветам, выканкомам і выбарчым камісіям пры іх загадзя скласьці цьвердыя каляндарныя пляны падачы гэтай справаздачнасьці прыблізна ў такім выглядзе:

## КАЛЯНДАРНЫ ПЛЯН

падачы . . . . . райвыканкомам (саветам) статыстычнай і інфармацыйнай справаздачнасьці ў ЦВК БССР.

| №№ форм | АБЧЫМ | Тэрміны падачы папярэдніх вестак | Тэрміны падачы канчатковых вестак | Увага |
|---|---|---|---|---|
| 1-а | Аб складзе выбарчых камісій | — | 20 лістапада | |
| 6-а | Тэлеграфныя весткі аб выбарах | Кожнага 10, 20 і 30 чысла з пачатку кампаніі | 1 студзеня | |
| 8-а | Тэлеграфныя весткі аб раённых зьездах саветаў . . . . | На другі дзень пасьля зьезду | 15 сакавіка | |
| 13 | Удзел насельніцтва ў перавыбарах саветаў і склад саветаў і раённых орган. улады . . | 10 студзеня | 1-га лютага | |
| 15 | Справаздачная кампанія саветаў у вёсцы . . . . . . . | Кожнага 10, 20 і 30 чысла з пачатку справаздачн. перавыб. кампаніі | 1-га лютага | |
| 17 | Справаздачная кампанія саветаў у гарадох . . . . . . | Таксама | 1-га сакавіка | |
| 18 | Інфармацыйная сводка . . . | Таксама | 1-га лютага | |

Такія каляндарныя пляны падачы статыстычных і інфармацыйных вестак павінны быць складзены ўсімі саветамі ў адпаведнасьці з вызначанымі райвыканкомамі для іх тэрмінамі.

**П. Ягаўдзік.**

# Няхай жыве бальшавіцкая самакрытыка—сродак выяўленьня нашых недахопаў і зброя палепшаньня нашага будаўніцтва.

## Паравыбары саветаў і пазбаўленцы.

„Ня раз здаралася ў рэвалюцыях, што памешчыкаў і капіталістых удавалася зьмесьці, але з кулачча, заможніх сялян, з спэкулянтаў у даволі кароткі тэрмін нараджаліся новыя капіталістыя, якія здаралася яшчэ больш прыгняталі рабочых, чым старыя памешчыкі і капіталістыя. Вось задача, якую нам трэба вырашыць: зрабіць так, каб ня толькі старыя капіталістыя былі зьмецены, але каб і не змаглі нарадзіцца новыя".

(Ленін, том. 20, часьць 2, ст. 316).

Абвостраная клясавая барацьба ўздымаецца на вышэйшую ступень пры рашучым наступе на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, якія аказваюць шалёнае супраціўленьне. Правядзеньне палітычна-гаспадарчых кампаній і ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў савецкай ўлады сустракаюцца атакаю варожых элемэнтаў, кулакаў ў вёсцы і нэпманамі ў горадзе. Асабліва арганізавана сустракаюць кампанію перавыбараў саветаў кулаччо сумесна з пазбаўленцамі розных каляраў. Да гэтай кампаніі, як паказаў вопыт мінулых гадоў, ідзе падрыхтоўка чуждых сацыялістычнаму будаўніцтву элемэнтаў па ўсіх галінах дзейнасьці. Супроць работы саветаў, супроць батрацка-бядняцкіх кандыдатур у саветы і наказаў выступаюць сплашным фронтам кулакі, нэпманы, слугі рэлігійных культаў розных адценьняў і ўся плеяда пазбаўленцаў, яднаючы ў некаторых мясцох вакол сябе ўсіх выяўленых і нявыяўленых пазбаўленцаў, якіх у БССР толькі выяўленых налічваецца 104.000.

Не адпадае пагроза, што ў справаздачна-перавыбарчую кампанію 1930-31 г. кулакі і ўсе пазбаўленцы яшчэ больш будуць актывізавацца з мэтаю кампрамэнтацыі ўсей дзейнасьці саветаў, спэкуліруючы на нашых цяжкасьцях. Яскравым прыкладам гэтага зьяўляецца тое, што ў дзясятках раёнаў БССР у 1930 гаспадарчым годзе ня знойдзен кулак. Ва ўсіх 13 раёнах был. Бабруйскай акругі ня выяўлена ніводнай кулацкай гаспадаркі. З 10 раёнаў быўш. Мазырскай акругі толькі ў Капаткевіцкім раёне выяўлена 6 кулацкіх гаспадарак. Гэта ў той час, калі калектывізацыя ў гэтых раёнах праведзена значна менш чым на 20 проц., а тэрарыстычныя акты падпал калгасаў, забойства актывістых калгаснага руху так сама ня зьніклі ў гэтых раёнах. Выходзіць, па думцы працаўнікоў гэтых раёнаў, што стары кулак ужо дабіты, раскулачаны і высланы, новых няма, а значыць і на клясавую барацьбу наогул і ў час перавыбараў саветаў асабліва можна звярачваць менш увагі. Такі погляд і дзейнасьць інакш, як правым апартунізмам, супярэчачым пастанове XVI зьезду УсеКП(б), назваць нельга. XVI партзьезд адзначыў „кулак яшчэ не дабіты і будзе аказваць шалёнае супраціўленьне прасоўваньню калектывізацыі".

З установкамі адсутнасьці новага кулака ў раёнах небясьпечна ўступаць у справаздачна-перавыбарчую кампанію саветаў тым больш, што такі погляд дэзорыентуе нізавы савецкі актыў і разбройвае ў гэтым напрамку раённую арганізацыю. Тыя раёны, у якіх ня выяўлен кулак, асабліва яго пачнуць адчуваць у час справаздачна-перавыбарчай кампаніі, калі не падрыхтуюцца, сплаціўшы вакол саветаў батрацка-бядняцкую частку вёскі і калгасьнікаў для барацьбы і рашучага адпору. Таксама прыдзецца сустрэцца з варожым элемэнтам—пазбаўленцамі, у якіх адзіная мэта, кампрамэтуючы саветы, кандыдатуры беднаты і ўсю дзейнасьць савецкай улады, прабрацца самім у саветы, або правесьці абаронцаў кулацкіх інтарэсаў. Кулацтва, нэпманы слугі рэ-

лігійных культаў, маючыя адзіную мэту сумесна з пазбаўленцамі, будуць мець толькі розную тактыку. У мінулым годзе пры перавыбарах саветаў і правядзеньні калектывізацыі мы мелі прыклады, калі ня толькі кулакі імкнуліся прабрацца ў саветы і калгасы ці правесьці сваіх людзей для падрыву калгасаў знутры, а нават і папы падавалі заявы ўступіць у калгасы. Бязумоўна, ня з мэтаю іх умацаваньня, а з мэтаю іх падрыву. Напрыклад, поп Буршын Георгій, Клімавіцкага с/савету падаў у калгас наступную заяву, „В коллективизации нет ничего противного совести всякого верующего человека и в особенности крестьянина. По учению нашей церкви в ней нет ни эллина, ни иудея, ни раба, ни свободного, но все мы братья и должны жить одной общей жизнью. Христос сказал ясно богачу, „Иди продай имение твое и иди за мной, чтобы жить для людей“. На основании изложенного прошу Климовический с/совет записать меня в коллектив. Служба по должности священика по фактическому вступлению в коллективную жизнь будет мною оставлена. Проситель гр. Буршын Георгий“.

Падбітыя ў адчыненым баю кулацканэпманаўскія элемэнты і слугі культаў бесспрэчна спрабуюць у справаздачнаперавыбарчую кампанію рознымі спосабамі арганізавацца і змагацца за свае інтарэсы з мэтай забясьпечаньня саветаў блізкімі кандыдатамі, каб рабіць уплыў на ўсю дзейнасьць саветаў і калгасаў. Другі прыклад у 1930 годзе поп Паўлаўскагага сяла Савеніч у мінулым паручык царскай арміі, зламаўшы шаблю ў барацьбе за інтарэсы капіталістых, замяніў яе на крыж і дурманіць людзей у працягу доўгага часу. У лютым м-цы 1930 году па тактычным поглядам у пэрыяд калектывізацыі адмовіўся ад сану. Аднак, той-жа поп праз некалькі дзён, едучы каля царквы пасьля адмаўленьня і, угледзіўшы сялян, прыпыніў каня перад царквою і пачаў маліцца. Па маючымся зьвесткам гэты поп і ў сучасны момант акрамя імкненьня забраць сан назад, праводзіць часовую „каштоўную“ працу ў Паўлаўскім калгасе „Сонца“, у якім ад вясны няма прыліву бядняцкасераднsocкіх гаспадарак, а ёсьць адліў.

Як бачна, роля вялікай колькасьці пазбаўленцаў (104000) як у адбудоўчы пэрыяд народнай гаспадаркі, так і ў рэканструкцыйны пры выбарах саветаў актыўна накіроўваецца на перашкоду сацыялістычнаму будаўніцтву. Гэта частка не абмяжоўваецца толькі роспускам хлусьлівых чутак, яна пераходзіць да больш актыўнай дзейнасьці,—тэрарыстычным актам, нашчупваючы слабыя месцы, гуртуючы вакол сябе рэлігійныя сэкты, нават няправільна пазбаўленых сераднякоў, несьвядомых жанчын, былых людзей і судзімы за крымінальныя справы элемэнт для дасягненьня сваіх агульных мэт. Такому блёку пазбаўленцаў, які арганізавана ні раз праяўляў сябе ў час перавыбараў саветаў, хаваючамуся ў некаторых выпадках за нацыянальную шыльду, трэба даць рашучы адпор, апіраючыся на батракоў, беднату і калгасьнікаў і трымаючы моцны саюз з серадняком.

Раённым, сельскім і гарадзкім выбарчым камісіям, прыступаючы да справаздачна-перавыбарчай кампаніі, вялізарную армію пазбаўленцаў неабходна перагледзіць у тым напрамку, каб няправільна і неабгрунтавана пазбаўленых аднавіць і выявіць новыя катэгорыі пазбаўленцаў, якія ў час вялізарнага зруху ў вёсцы маглі занава зьявіцца. Скаргі на няправільнае пазбаўленьне выбарчых правоў патрэбна ўважліва пераглядзець у вызначаныя тэрміны таму, што ў некаторых мясцовасьцях у сьпіс пазбаўленцаў пападаюць серадНякі са сваімі сябрамі двара. Наша палітыка ў адносінах да серадняка, як саюзьніка, павінна быць прыяцельскаю без якіх бы то ні было гвалтоўных мер. Трэба памятаваць, што казаў тав. Ленін у адносінах серадняка.

„Гвалт у адносінах да серадняка сялянства становіць сабой найвялікшую шкоду. Гэта пласт шматлікі, шматмільённы нават у Эўропе, дзе ён нідзе не дасягае такой сілы. Дзе гіганцка разьвіта тэхніка і культура, гарадзкое жыцьцё чыгункі, дзе лягчэй за ўсё было-б думаць аб гэтым,—ніводны з самых рэвалюцыйных сацыялістых ніколі не прапанаваў гвалтоўных мер у адносінах да сярэдняга сялянства (том XVI. ст. 150).

Кожны перагляд сьпісаў пазбаўленцаў выяўляў няправільна занесеных і наяўнасьць новых па розным прычынам прапушчаных. Яскравым прыкладам можа служыць такі факт, калі ў Клічаўскім раёне пазбаўлялі выбарчых правоў асоб нараджэньня 1903 года за тое, што яны як быццам у стары час былі судзьдзямі, або жонку і сям'ю звар'яцелага пазбаўлялі выбарчых правоў, матывіруючы тым, што звар'яцелыя ня маюць права голасу, а раз яны ня маюць права голасу, дык ня маюць права голасу і сем'і іх. Па быўш. Мазырскай акрузе пазбаўлялі выбарчых правоў за адмаўленьне серадняцкіх гаспадарак уступаць у калгасы. Асабліва патрэбна ўважліва падыйсьці пры пераглядзе сьпісаў у мястэчках, дзе маецца цэлы шэраг яўрэйскай беднаты і дробных гандляроў у мінулым.

Раённым, гарадзкім і сельскім выбарчым камісіям, прыступаючы да справаздачна-перавыбарчай кампаніі, непатрэбна забываць тэй вялізарнай колькасьці ворагаў сацыялістычнага будаўніцтва, пазбаўленцаў розных колераў, якія гуртуючы вакол сябе несьвядомую і маласьвядомую частку насельніцтва пры правядзеньні ўсіх палітычна-гаспадарчых кампаній з асаблівай ярасьцю выступаюць пры перавыбарах саветаў. Актыўна выступаючы яны перашкаджаюць пасьпяховасьці правядзеньня мерапрыемстваў, накіраваных на гаспадарчы і культурны ўздым гораду і вёскі.

Ведаючы гэта, выбарчым камісіям, прафэсыйным і грамадзкім арганізацыям загадзя патрэбна арганізаваць вакол сябе актыў і апірацца на батрацка-бядняцкую частку вёскі, калгасьнікаў і ўвесь савецкі актыў з тым, каб непарушаць, а яшчэ больш узмацняць у час перавыбарчай кампаніі саюз з серадняком, працягваць пераможны наступ на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і, ліквідуючы кулацтва як клясу на базе суцэльнай калектывізацыі, узьняць тэмпы правадзімых кампаній і забясьпечыць як выбарчую работу ад уплыву варожых элемэнтаў, так і будучы склад саветаў.

Толькі такім шляхам пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі можна забясьпечыць кіруючую ролю пралетарыята ў саветах, даць руйнуючы адпор правым апартуністам і іх права-леваму блёку і стварыць моцныя і працаздольныя для вырашэньня задач сучаснага пэрыяду сацыялістычнага будаўніцтва органы пралятарскай дыктатуры—сельскія і гарадзкія саветы.

**Мікуліч.**

---

# Аб правядзеньні ліквідацыі акруг і ўмацаваньні раёнаў.

*(З прамовы т. Хацкевіча на пленуме ЦК КП(б)Б).*

Гаворачы аб ліквідацыі акруг і ўмацаваньні раёнаў, нельга не падкрэсьліць той вялікай палітычнай ролі, якая ўскладаецца на раённыя партыйныя, савецкія і грамадзкія арганізацыі, якая ўзьнікае з вырашэньня задачы ліквідацыі акруг і пераходу на раённую сыстэму. Ліквідаваць акругі аказалася ня так ужо цяжка, але затое вырашэньне задачы ўмацаваньня раёнаў **аказалася вельмі цяжкай** і для цэнтральных кіруючых органаў і для акруговых арганізацый, якія вырашалі гэту справу канкрэтна, якія падбіралі працаўнікоў, пасылалі іх у раёны, укамплектавалі райкомы і райвыканкомы—раённыя кіруючыя арганізацыі.

У чым маюцца недахопы ліквідацыі акруг і пераходу на раённую сыстэму ў нашай працы? Першае, калі мы разьмяркоўвалі працаўнікоў, асноўны партыйны і савецкі актыў акруг, мы гэта рабілі ў акруговым разрэзе, мы не падлічылі ўсіх кадраў, мы разьмяркоўвалі ня зусім мэтазгодна работнікаў, маючы перад сабою усе 100 раёнаў; мы разьмяркоўвалі работнікаў так, каб кожная акруга свой актыў накіравала ў свае раёны, і таму мы па раёнах БССР **у разьмеркаваньні працаўнікоў маем некаторую стракатасьць**, дзе густа, а дзе пуста. Напрыклад возьмем Віцебшчыну. Раёны Віцебскай акругі, як **раёны ранейшай пакazальнай акругі**

былі дастаткова ўмацаваны сіламі самой Віцебшчыны і сіламі БССР—сіламі ўсёй КП(б)Б. Раёны-ж Магілеўшчыны, Бабруйшчыны, Мазыршчыны і г. д. былі горш укамплектаваны працаўнікамі, хаця ў гэтых акругах раёнаў было больш, чым у Віцебшчыне. Усё-ж з Віцебшчыны мы працаўнікоў **не ўзялі і не паслалі іх у іншыя акругі**. Таму ў аднэй частцы БССР, кіруючы склад раёнаў зьяўляецца больш узмоцненым, у іншых—больш слабым. Прычым гэта разьмеркаваньне і пасылка рабілася насьпех, з гэтае прычыны ў адны раёны папала значная частка кіруючых працаўнікоў больш моцных, а іншыя раёны былі забясьпечаны больш слаба.

Вось чаму мне думаецца ў далейшым перад перавыбарамі саветаў, і правядзеньнем раённых зьездаў саветаў нам прыдзецца яшчэ **перагледзіць разьмеркаваньне** работнікаў і зрабіць некаторую плянавую перакідку.

Другая справа: у мінулым годзе па дырэктывах ЦК і Прэзыдыуму ЦВК была павялічана колькасьць пасад на кіруючай працы спэцыяльна для жанчын, і для гэтага зрабілі вылучэньне па партыйнай, па савецкай і па грамадзкай лініі. Пераход на раённую сыстэму значна зьменшыў колькасьць жанчын на адказнай кіруючай працы, асабліва па савецкай лініі: на сёнешні дзень мы ня маем амаль ніводнай жанчыны—старшыні РВК і гарсавету.

Трэцяя справа з вылучэньня—тыя вылучэнцы, якія былі ў акруговым апараце, яны часткова засталіся ў акругах і ня былі скарыстаны, а таму вылучэнства ў сувязі з пераходам на раённую сыстэму ня толькі не пашырылася, а **значна** звузілася. Кожны раён зараз патрабуе працаўнікоў, не паставіўшы як сьлед перад сабою пытаньня аб выхаваньні і падборы новых вылучэнцаў. Гэтая задача павінна паўстаць перад раённымі партыйнымі арганізацыямі, перад раённымі савецкімі органамі. Справа ня ў тым, што цэнтральныя кіруючыя ворганы затрымалі работнікаў і вучотна-разьмеркавальныя аддзелы іх не далі ўсіх працаўнікоў на раёны, і таму у раёнах штаты не запоўнены, а справа ў тым, што ў акругах было **значна менш** партыйных і розных іншых работнікаў, **чым патрэбна** раёнам. Раёны патрабавалі ад акруг, а зараз патрабуюць ад цэнтру значна большай колькасьці працаўнікоў, чымся могуць даць цэнтральныя і былыя акруговыя арганізацыі, якія ўкампляктоўвалі раённыя апараты.

Таму перад намі ставіцца ва ўсю шырыню задача аб кадрах. Нам трэба **яшчэ больш шырока ажыцьцяўляць вылучэнства,** нам трэба больш прасоўваць ужо працуючых рабочых, работніц, падрыхтоўваць іх для таго, каб можна было ўзмацняць увесь дзяржаўны і асабліва раённы апарат. Цэнтральны апарат на сёнешні дзень знаходзіцца ў такім становішчы, што мае толькі кіруючую частку і тэхнічную канцэлярыю. Няма таго асяродка ў цэнтральным апараце, які павінен кіраваць і дапамагаць раёну. **Інструктарскі і інспэктарскі апарат у цэнтры вельмі слабы,** калі ня лічыць РСІ, якой удалося больш-менш падабраць, больш-менш укамплектаваць свой іспэктарскі апарат. Наш цэнтральны савецкі апарат яшчэ не навучыўся канкрэтна па дзелавому кіраваць раёнамі, а піша пакуль-што агульныя дырэктывы, якія часта нікому, нічога не даюць, пасылае тэлеграмы, якія дорага каштуюць і ня толькі не дапамагаюць раёнам, а нават нэрвуюць іх.

Вось чаму пытаньне аб кадрах **зьяўляецца важнейшым пытаньнем** і яго трэба вырашыць усёй КП(б)Б, трэба больш вылучаць, сьмялей высоўваць зьнізу работнікаў у кіруючы апарат.

У чым недахопы працы самага раёну? Перш за ўсё яшчэ няма таго **шырокага бойкага размаху** з боку раённых арганізацый, з боку кіруючых ворганаў, райкомаў, райвыканкамаў у іх працы. Акруговыя працаўнікі павінны перанесьці вопыт самастойнай акруговай працы ў раёны, бо зараз самастойнасьці працы ў раёнах не адчуваецца; за ўсякай **дробязьзю** зварочваюцца ў цэнтральны апарат, за дазволам, за дапамогай, санкцыяй і па другім дробным пытаньням. Раёны маюць правы былых акруг, а гэта дае вельмі шырокае права і ўскладае вялікую адказнасьць за вырашэньне ўсіх спраў, якія ўзьнікаюць на мясцох.

Адносна сельсаветаў—з гэтым справа ў нас абстаіць слаба. Ні раз мы ужо аб гэтым гаварылі, і вы самі добра ведаеце. Тыя працаўнікі, якія працавалі ў акругах і цэнтры і якія пераехалі зараз у раён, сыгналізуюць, што ў цэлым шэрагу месц сельсаветы амаль што не вядуць працы—фактычна як масавыя органы ня існуюць. У чым тут справа? Перш за ўсё справа ў тым, што мы яшчэ не змаглі падабраць такіх працаўнікоў, якія маглі-б здольна працаваць у сельсаветах. Справа ў тым, што мы яшчэ ня вырашылі пытаньня адносна стварэньня матар'яльнай базы для сельсаветаў. Зараз сельсаветы павінны мець свае бюджэты. Гэта дасьць ім магчымасьць лепш забясьпечыць усе патрэбы працы, палепшыць матар'яльнае становішча працаўнікоў. Аднак, з цэлага шэрагу месц сыгналізуюць, што бюджэты складаюцца слаба, няўмела, у некаторых сельсаветах зусім не складаюцца сельскія бюджэты. На гэта трэба райвыканкомам зьвярнуць увагу і для пачатку трэба, каб яны самі дапамагалі сельсаветам вырашаць гэтае вялікае пытаньне.

Зарплата раённых і сельскіх работнікаў некалькі павялічылася, але-ж гэта далёка недастаткова для таго, каб забясьпечыць працаўнікоў сельсаветаў. У кіруючым складзе сельсаветаў мы маем больш 200 ч. рабочых і былых сяброў гарсаветаў, якіх мы накіравалі ў мінулым, таксама маем камсамольцаў, накіраваных раней у вёску. ЦК Камсамолу зараз намячае 200 ч. комсамольцаў, пераважна рабоча-батрацкай моладзі, якая таксама накіроўваецца ў вёску на кіруючую працу—старшынямі, намесьнікамі, сакратарамі сельсаветаў.

І вось тут трэба яшчэ раз паставіць пытаньне аб лепшым забясьпечаньні матар'яльнага становішча працаўнікоў сельсаветаў. Пры складаньні мясцовых бюджэтаў, раённых, сельскіх мы павінны яшчэ **і яшчэ раз падлічыць нашы магчымасьці** і намеціць матар'яльныя сродкі, якія трэба даць у дадатак да тых, якія маюцца меркаваньні на павялічэньне зарплаты сельскіх працаўнікоў. Бяз гэтага—без стварэньня матар'яльнай базы, без палепшаньня матар'яльнага становішча сельскіх працаўнікоў, нам ня вырашыць задачы ўкамплектаваньня, лепшымі пралятарыямі, батракамі, партыйцамі і камсамольцамі, нашых сельсаветаў, а ад гэтага залежыць вырашэньне справы ўмацаваньня сельскіх саветаў.

Зараз набліжаюцца перавыбары с.-с. Калі мы гаворым аб умацаваньні савецкага апарату, аб умацаваньні с.-с., дык у гэтым сэнсе, гэтую кампанію трэба скарыстаць як сьлед.

Бязумоўна на шляху ўмацаваньня раёнаў, у перспэктыве нашай работы паўстане задача аб правядзеньні эканамічнага і адміністрацыйнага раёнаваньня. Вядома, што некаторыя слабыя раёны павінны будуць зьліквідавацца і часткамі зьліцца з больш буйнымі эканамічна моцнымі раёнамі, што дасьць нам эканомію і ў людзях і ў сродках. Але зразумела гэтую задачу вырашаць насьпех ні ў якім разе нельга. Трэба прапрацаваць гэту справу і цэнтральнаму апарату; трэба прапрацаваць гэтае пытаньне і на мясцох для таго, каб яго вырашыць станоўча і плянава.

Асноўная задача ў сэнсе кіраўніцтва з боку цэнтральнага апарату раёнамі гэта па дзелавому быць бліжэй да раёнаў і забясьпечыць цэнтральныя ўстановы інструктарскімі і інспэктарскімі кадрамі. Цэнтральны апарат нядаўна атрымаў 100 чалавек вылучэнцаў рабочых, якія былі праведзены праз адпаведныя курсы. Гэта вялікі падарунак цэнтральнаму савапарату, колькасьць гэта зьяўляецца вельмі значнай, аднак якасьць гэтых працаўнікоў пакуль-што вельмі слабая. Кіраўнікам цэнтральных органаў трэба бліжэй падыйсьці да працуючых вылучэнцаў, трэба ў бліжэйшыя часы з імі папрацаваць як сьлед, каб яны сапраўды зрабіліся працаўнікамі-практыкамі, кіраўнікамі і дапаможнікамі пры выездах у раёны, а таксама, каб яны лепш ведалі запатрабаваньні раёну, седзячы ў цэнтры. Гэтых 100 чалавек вылучэнцаў-рабочых у цэнтральны апарат трэба зрабіць такімі, якія дапамагалі-б раёнам. Гэта тое зьвяно вылучэнцаў, якое павінна зьблізіць па дзелавому цэнтральны апарат з раёнам, у чым яшчэ маецца вялізарны прарыў.

Мы яшчэ не набылі неабходнай практыкі ў адносінах да раёнаў. Мы шмат пішам і шмат гаворым агульнага і мала даем канкрэтнага, **што** і як трэба ра-

біць. Гэтую тэлеграфную шуміху, паток пасылак доўгіх і частых тэлеграм, трэба, зразумела, скараціць і замяніць жывым інструктаваньнем, жывой дапамогай, выездам цэнтральных працаўнікоў—інструктароў і інспэктароў для работы ў раёны. Пры чым гэтыя выезды трэба ўпарадкаваць так, каб ня было ў блізжэйшым да чыгункі раёне дзясяткі ўсялякіх прадстаўнікоў з цэнтру, а ў больш адлеглым—зусім ня было іх відаць, г.-з. нам патрэбна ўсюды жывое кіраўніцтва, жывая дапамога. Гэта пытаньне нам трэба зараз урэгуляваць.

# Узмацненьне раёнаў і сельсаветаў — асноўная задача перавыбараў

## Праца груп беднаты ў Бярэзінскім раёне.

У сучасны момант Партыя і Урад праводзяць важнейшыя палітычна-гаспадарчыя кампаніі. Пасьпяховае выкананьне намечаных плянаў па ўсім гаспадарчым кампаніям забясьпечыць магчымасьць выканаць пяцігодку ў чатыры гады. Кулак і заможнік пускаюць у ход усе спробы для того, каб перашкодзіць выкананьню намечаных плянаў і таму роля груп беднаты і сходаў беднаты цяпер як ніколі надзвычайна важна і адказна. Тым больш важнае значэньне набывае гэтае роля ў сувязі з перадачай часткі правоў райвыканкомаў сельсаветам і наогул пашырэньне кампетэнцыі і правоў с/саветаў. Перад саветамі зараз пастаўлена задача павярнуцца тварам да калгаснага будаўніцтва і стаць на чале новай хвалі прыліву бядняцка-серадняцкай часткі сялянства ў калгасы. Як-жа пабудавалі сваю працу групы беднаты, а разам з імі і сельсаветы? Ці спраўляюцца яны з ускладзенымі на іх задачамі? І як кіруючыя склады с/саветаў зразумелі ролю груп беднаты ў новых умовах працы с/савету на Бярэзеншчыне? Тыя факты, аб якіх я буду гаварыць, далёка не забясьпечваюць выкананьня пастаноў партыйных зьездаў па пытаньню аб працы з беднатой. На тэрыторыі Бярэзінскага раёну пры ўсіх 16 сельсаветах арганізаваны групы беднаты. Для кіраўніцтва групамі партыйнымі ячэйкамі вылучаны кіраўнікі. Здавалася-б, што праца павінна праходзіць нармальным парадкам, але, у сапраўднасьці атрымліваецца адваротнае. Плянаў работы груп беднаты ня маецца ні ў адным сельсавеце, пасяджэньні груп не заўсёды праводзяцца перад пленумам, а па некаторых сельсаветах групы зусім не працуюць. Так пры Бярэзінскім местачковым савеце на працягу 5 месяцаў група беднаты зусім ня зьбіралася. Кіраўнік гэтае групы перанёс усю працу яе у калгас, але яна ніякага ўплыву на сельсавет не аказвае. Старшыня местачковага савету нават яшчэ і да гэтае пары не ўяўляе, хто павінен кіраваць групаю беднаты і якія перад ёю стаяць задачы. Яшчэ горш абстаіць справа з работаю групы беднаты пры Бярэзенскім сельсавеце, хоць кіраўніком яе і зьяўляецца добра палітычна падрыхтаваны член бюро мясцовай парт'ячэйкі тав. Янкоўскі. Ня гледзячы на тое, што да ўсяго сказанага ён яшчэ мае шмат вольнага часу, пытаньнем наладжваньня працы групы беднаты пры сельсавеце амаль не займаўся.

Аб становішчы працы гэтае групы і адсутнасьць уплыву яе на працу кіраўнічае часткі сельсавету гавораць наступныя факты. 19-га кастрычніка 1930 г. праходзіў пленум сельсавета, на якім стаялі пытаньні аб ходзе выкананьня гаспадарчых кампаній і аб зьмене старшыні сельсавету па прычыне яго бязьдзейнасьці. Як відаць, пытаньні надзвычайна важныя і, як правіла, павінны былі папярэдне абгаварыцца на групе беднаты, але, ня гледзячы на ўсю важнасьць паказаных пытаньняў, тав. Янкоўскі не палічыў патрэбным вынесьці іх на абга-

варэньне групы беднаты. У выніку такой „падрыхтаванасьці“ на пленуме некаторыя члены сельсавету з беднякоў выступалі супроць гаспадарчых мераприемстваў, правядзеньня у жыцьцё якіх узложана на сельсавет. Асабліва характэрным момантам, у справе як ня трэба кіраваць працаю груп беднаты, зьяўляецца вырашеньне пытаньня аб зьняцьці з працы старшыні сельсавету Валевіча за тое, што апошні ня змог наладзіць кіраўніцтва працаю сельсаветаў і не арганізаваў работы па правядзеньні палітычна-гаспадарчых кампаній і наогул не адпавядаў свайму прызначэньню. Не падрыхтаваныя беднякі члены сельсавету замест таго, каб асудзіць кіраўніцтва сельсавету, якое прывяло амаль да зрыву гаспадарчай кампаніі, пачалі выступаць у абарону гэтага старшыні, даводзячы, што ён ні-бы „добры“, а „добры“ ён быў таму, што сам бязьдзейнічаў і разам з ім бязьдзейнічалі і члены сельсавету. Амаль такое-жа становішча з працаю груп беднаты назіраецца і па рэштцы сельсаветаў. Прычынай такой слабай пастаноўкі работы зьяўляецца: па першае, недаацэнка значэньня арганізацыі беднаты з боку мясцовых органаў, па другое, несталае разуменьне задач груп беднаты на даным этапе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, па трэцяе, расплывчатасьць і неканкрэтнасьць тых пытаньняў, якія ставіліся на абгаварэньне груп беднаты і апошняе тое, што нават раённыя ўстановы не ўзяліся яшчэ як сьлед за аказаньне практычнае дапамогі нізавым органам у гэтай надзвычайна важнай галіне работы, а абмяжоўваліся толькі абежнікамі.

Усе гэтыя праявы, якія па сутнасьці зьяўляюцца правымі дзеяньнямі на практыцы, павінны атрымаць рашучае асуджэньне і рашучы адпор з боку ўсіх арганізацый Бярэзеншчыны. Праведзеная ў ячэйках і сельсаветах прапрацоўка адозвы ЦК УсеКП(б) павінна зрабіць рашучы пералом у рабоце з групамі беднаты. Кампанейшчына, выпадковасьць, нячоткасьць і адсутнасьць выразна клясавай лініі ў гэтай галіне павінны быць з коранем вырваны з практыкі нашае работы. Мясцовыя парт‘ячэйкі павінны стаць сапраўднымі цэнтрамі кіраўніцтва усей справай арганізацыі беднаты і батрацтва. Каб поўнасьцю выканаць высунутую адозваю ЦК УсеКП(б) задачу па ўцягненьні да канца трэцяга году пяцігодкі ня менш 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы, сельсаветы павінны быць у першую чаргу зацікаўлены ў наладжваньні працы груп беднаты. Кожная група беднаты павінна мець свой плян працы, увязаць яго з агульным плянам працы сельсавету і цалкам ахапіць ім усе сучасныя задачы. Усе прынцыповыя пытаньні, якія павінны вырашацца пленумамі сельсавету, папярэдня абгаварваюцца групамі беднаты.

Ад ступені наладжанасьці працы груп беднаты будзе залежаць і пасьпяховая праца ўсяго сельсавету.

**Я. Важнік.**

---

# Інструкцыя аб выбарах у саветы БССР.

Выбары ў саветы ва ўмовах разгорнутага сацыялістычнага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, маюць асоба важнае значэньне. Выбары ў саветы будуць адбывацца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, калі клясава-варожыя савецкай уладзе элемэнты актыўна, спрабуючы прыпыніць буйны рост сацыялістычнай індустрыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, будуць імкнуцца да таго, каб прабрацца ў час перавыбараў у саветы і дэзарганізаваць іх работу.

Перавыбарчая кампанія саветаў, зьяўляючыся важнейшай масавай палітычнай кампаніяй, патрабуе вялікай да сябе ўвагі з боку ўсіх саветаў і выканаўчых камітэтаў, прадуманай работы па арганізацыі пралетарыяту і працоўных мас да ўдзелу ў перавыбарах і далейшага наступу на клясавага ворага.

Для дакладнага вызначэньня праў і абавязкаў мясцовых органаў улады ў

справе перавыбараў саветаў і для правільнай арганізацыі перавыбараў, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, у разьвіцьцё інструкцыі аб выбарах у саветы, зацьверджанай Прэзыдыумам ЦВК Саюзу ССР 3-га кастрычніка 1930 г. („Известия ЦИК СССР и ВЦИК" за 9 кастрычніка 1930 г., № 279) пастанаўляе скасаваць інструкцыю аб выбарах у саветы, зацьверджаную Прэзыдыумам ЦВК БССР 26 лістапада 1927 г. і зацьвердзіць наступную інструкцыю аб выбарах у саветы БССР.

### I. Аб выбарчых камісіях.

1. Для агульнага кіраўніцтва выбарчай кампаніяй у Беларускай ССР пры Прэзыдыуме Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР утвараецца Цэнтральная выбарчая камісія, пэрсанальны склад якой зацьвярджаецца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР.

2. Цэнтральная выбарчая камісія:

а) ажыцьцяўляе агульны нагляд за падрыхтоўкай і правядзеньнем выбарчай кампаніі на тэрыторыі БССР;

б) кіруе работай раённых выбарчых камісій і гарадзкіх камісій гарадоў, якія непасрэдна падпарадкаваны Прэзыдыуму ЦВК;

в) уносіць у Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР прапановы аб скасаваньні выбараў;

г) уносіць у Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР прапановы аб роспуску выбарчых камісій, паказаных у п. „б" гэтага артыкулу, аб скасаваньні незаконных або немэтазгодных іх пастаноў, а таксама разглядае ў вызначаныя тэрміны пратэсты і скаргі на пастановы і мерапрыемствы гэтых выбарчых камісій.

3. Для кіраўніцтва выбарчай кампаніяй на тэрыторыі раёну пры раённых выканаўчых камітэтах утвараюцца раённыя выбарчыя камісіі з 13 асоб, пэрсанальны склад якіх зацьвярджаецца прэзыдыумам раённага выканаўчага камітэту.

4. Для кіраўніцтва выбарчай кампаніяй на тэрыторыі гарадоў, непасрэдна падпарадкаваных Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, пры гарадзкіх саветах гэтых гарадоў утвараюцца гарадзкія выбарчыя камісіі з 13 асоб, пэрсанальны склад якіх зацьвярджаецца пленумам гарадзкага савету.

5. Для кіраўніцтва выбарчай кампаніяй на тэрыторыі гарадоў, падпарадкаваных раённым выканаўчым камітэтам, утвараюцца пры гарадзкіх саветах гарадзкія выбарчыя камісіі ў складзе 9 асоб, пэрсанальны склад якіх зацьвярджаецца пленумам гарадзкога савету.

6. Для кіраўніцтва выбарчай кампаніяй на тэрыторыі сельскіх і мястэчковых саветаў, пры апошніх утвараюцца з 7 асоб сельскія і мястэчковыя выбарчыя камісіі, пэрсанальны склад якіх зацьвярджаецца пленумам сельскага або мястэчковага савету па належнасьці.

7. Старшыні раённых выбарчых камісій і старшыні гарадзкіх выбарчых камісій пры гарадзкіх саветах, непасрэдна падпарадкаваных Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, назначаюцца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР.

8. Старшыні гарадзкіх выбарчых камісій гарадоў, падпарадкаваных раённым выканаўчым камітэтам, а таксама старшыні сельскіх і мястэчковых выбарчых камісій, назначаюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі.

9. У склад раённых, гарадзкіх, сельскіх і мястэчковых выбарчых камісій павінны быць уведзены прадстаўнікі: раённага выканаўчага камітэту або савету, якія арганізуюць даную выбарчую камісію, аб'яднаньня прафэсыянальных саюзаў, ЛКСМ, нацыянальных меншасьцяй, Чырвонай Арміі, рабочых з вытворчасьці і калгасьнікаў. У складзе выбарчых камісій павінен быць забясьпечаны ўдзел жанчын.

10. Раённыя выбарчыя камісіі:

а) наглядаюць за законнасьцю і своечасовым правядзеньнем выбараў на тэрыторыі раёну;

б) кіруюць работай ніжэйстаячых выбарчых камісій, патрабуюць ад іх справаздач аб іх дзейнасьці, пасылаюць сваіх прадстаўнікоў у ніжэйстаячыя выбарчыя камісіі для азнаямленьня на месцы з іх работай і ходам выбарчай кампаніі;

в) даюць весткі аб ходзе выбараў у раённы выканаўчы камітэт і ў Цэнтральную выбарчую камісію;

г) уваходзяць у раённы выканаўчы камітэт з прапановамі аб роспуску ніжэйстаячых выбарчых камісій, аб адводзе іх членаў, а таксама аб скасаваньні не-

законных або немэтазгодных іх пастаноў;

д) уносяць прапановы ў раённы выканаўчы камітэт аб скасаваньні выбараў саветаў на тэрыторыі ўсяго раёну, або асобнай яго часткі;

е) у вызначаны тэрмін накіроўваюць у раённы выканаўчы камітэт са сваім заключэньнем паступаючыя скаргі грамадзян на пазбаўленьне выбарчага права.

11. Гарадзкія, сельскія і местачковыя выбарчыя камісіі:

а) праводзяць выбары на тэрыторыі гарадзкога, сельскага і местачковага савету у вызначаныя саветамі тэрміны і наглядаюць за законнасьцю і сваечасовым іх правядзеньнем;

б) даюць справаздачы аб ходзе выбараў, інфармацыйныя і статыстычныя весткі і іншыя матар'ялы адпаведным гарадзкім, сельскім або местачковым саветам;

в) уносяць у гарадзкія, сельскія або местачковыя саветы прапановы аб скасаваньні выбараў у паасобных выбарчых вучастках або ў адносінах асобных грамадзян, у выпадку парушэньня канстытуцыі БССР або выбарчага заканадаўства;

г) разглядаюць пратэсты і скаргі на няправільнае правядзеньне выбараў у саветы;

д) складаюць і правяраюць сьпісы выбаршчыкаў і сьпісы асоб, пазбаўленых выбарчага права; публікуюць сьпісы асоб, пазбаўленых выбарчага права;

е) пасылаюць выбаршчыкам імянныя выбарчыя позвы з паказаньнем месца і часу выбарчага сходу;

ж) назначаюць упаўнаважаных для правядзеньня выбарчых сходаў.

12. Раённыя, гарадзкія, сельскія і местачковыя выбарчыя камісіі ў сваёй дзейнасьці падпарадкоўваюцца адпаведнаму раённаму выканаўчаму камітэту, гарадзкому, сельскаму або местачковаму савету, кіруюцца іх паказаньнямі, а таксама паказаньнямі вышэйстаячых выбарчых камісій.

13. Выбарчыя камісіі карыстаюцца апаратамі адпаведных выканаўчых камітэтаў або саветаў.

14. Раённыя, гарадзкія, сельскія і местачковыя выбарчыя камісіі дзейнічаюць у пэрыяд выбарчай кампаніі, і па сканчэньні яе распускаюцца пастановамі Цэнтральнай выбарчай камісіі.

15. Пры роспуску выбарчыя камісіі ўсе выбарчыя матар'ялы перадаюць у адпаведныя раённыя выканаўчыя камітэты або саветы.

## II. Вызначэньне кола выбаршчыкаў і кола асоб, пазбаўленых выбарчых праваў.

16. Правам выбіраць і быць выбраным у саветы на падставе арт. 70 Канстытуцыі БССР карыстаюцца, незалежна ад веры і нацыянальнасьці, аселасьці і г. д. наступныя грамадзяне Беларускай ССР, якім да дню выбараў скончылася 18 год:

а) усе асобы, якія здабываюць сродкі для жыцьця вытворчай і грамадзка-карыснай працай, а таксама асобы, якія заняты хатняй гаспадаркай і забясьпечваюць для першых магчымасьць вытворчай працы;

б) чырвонаармейцы і чырвонафлётцы Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі.

Выбаршчыкі, якія страцілі працаздольнасьць, выбарчага права не пазбаўляюцца.

З ліку асоб, якія не зьяўляюцца грамадзянамі Беларускай ССР, правам выбіраць і быць выбранымі ў саветы карыстаюцца ўсе грамадзяне іншых саюзных савецкіх сацыялістычных рэспублік, якія належаць да вышэйпаказаных катэгорый, а таксама, а на падставе арт. 17 Канстытуцыі БССР, чужаземцы, якія пражываюць на тэрыторыі БССР для працоўных заняткоў і належаць да рабочай клясы або да сялянства, якое не карыстаецца чужой працай.

Увага: Раённыя і гарадзкія выбарчыя камісіі могуць надаваць выбарчыя правы таксама чужаземным грамадзянам з катэгорыі служачых, пражываючых на тэрыторыі БССР, калі ў адносінах да іх маюцца дастатковыя доказы поўнай лёяльнасьці іх да савецкай улады.

17. Сьпісы асоб, якія карыстаюцца выбарчымі правамі, складаюцца гарадзкімі, сельскімі і местачковымі выбарчымі камісіямі па ўстаноўленай форме.

18. У сьпісы выбаршчыкаў запісваюцца ўсе грамадзяне, якія стала або часо-

ва пражываюць на тэрыторыі данага гораду, мястэчка або сельскага савету і карыстаюцца выбарчымі правамі, паводле Канстытуцыі БССР і выбарчага заканадаўства Саюзу ССР і БССР.

19. Выбаршчыкі, якія часова адсутнічаюць (напрыклад, знаходзяцца на сэзонных работах, або адсутнічаюць па іншых прычынах) таксама запісваюцца ў сьпісы выбаршчыкаў па месцы свайго сталага пражываньня з такім разьлікам, каб яны маглі ў выпадку звароту да часу выбараў, зьдзейсьніць свае выбарчыя правы.

20. Пры складаньні і пры праверцы сьпісаў выбаршчыкаў і сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, выбарчыя камісіі павінны кіравацца Канстытуцыяй БССР (арт. 71), якая пазбаўляе асобных грамадзян і асобныя катэгорыі грамадзян выбарчых правоў, а іменна:

а) асоб, якія карысталіся, або карыстаюцца наймовай працай з мэтай атрыманьня прыбыткаў;

б) асоб, якія жылі або жывуць на непрацоўныя прыбыткі, а таксама тых, якія займаліся або займаюцца гандлем;

в) асоб, якія да моманту выбараў па свайму клясаваму становішчу або па сваей мінулай дзейнасьці адносяцца да катэгорыі пазбаўленых выбарчых правоў.

21. З паасобных катэгорый грамадзян пазбаўляюцца выбарчых правоў:

а) землеробы, саматужнікі, рамесьнікі, якія ўжываюць наймовую працу, сэзонную, або пастаянную, у такім разьмеры, што пашырае іх гаспадарку за межы працоўнай.

Увага: Асноўнай адзнакай працоўнай гаспадаркі ў даным выпадку зьяўляецца падсобны характар наёмнай працы і абавязковы ўдзел у штодзённай рабоце наяўных працаздольных членаў данай гаспадаркі ў межах і пры наяўнасьці ўмоў, паказаных у пунктах „а“, „б“, „в“, „г“ і „з“ арт. 22 гэтай інструкцыі.

б) землеробы, якія маюць побач з сельскай гаспадаркай прамысловыя заводы і прадпрыемствы (млын, крупадзёрку і г. д.) з мэханічнымі рухавікамі або з ужываньнем пастаяннай ці сэзоннай наёмнай працы;

в) асобы, якія сыстэматычна здаюць у наймы складаныя сельскагаспадарчыя машыны з мэханічнымі рухавікамі або асобы, якія закабаляюць акаляючае насельніцтва шляхам дачы ў карыстаньне рабочай жывёлы, сельскагаспадарчых машын і інш., або якія займаюцца дачай насельніцтву крэдыту (таварамі або грашыма) на кабальных умовах (квотнікі);

г) асобы, якія арандуюць зямлю на ўмовах, прызнаных раённай падатковай камісіяй кабальнымі для здатчыкаў;

д) асобы, якія арандуюць з мэтай гандлёвай і прамысловай эксплёатацыі сады, гароды і інш.

Увага: Арэнда садоў, гародаў і інш. у разьмерах і з захаваньнем ўмоў, пры якіх гэта арэнда ня можа служыць адзнакай для абкладаньня арандатараў адзіным сельскагаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку, ня можа таксама служыць адзнакай для пазбаўленьня арандатараў выбарчых правоў.

е) асобы, якія сыстэматычна здаюць у наём асобныя пабудовы, абсталяваныя пад прадпрыемства або жылішча, пры ўмове, калі іх гаспадарка, па разьмеру даходу ад гэтай здачы ў наём пабудоў, адносяцца да катэгорыі гаспадарак, якія абкладаюцца адзіным сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку;

ж) уласьнікі і арандатары прадпрыемстваў прамысловага тыпу, якія эксплёатуюць насельніцтва шляхам здачы тых або іншых работ на дом, або шляхам здачы гэтага прадпрыемства ў арэнду ці субарэнду;

з) прыватныя гандляры, перакупшчыкі і камерцыйныя пасрэднікі;

і) арандатары і ўласьнікі прадпрыемстваў фабрычна-завадзкога тыпу;

к) былыя афіцэры і чыноўнікі белых армій, а таксама кіраўнікі контр-рэвалюцыйных банд;

л) усе служачыя і агенты былой паліцыі, асобага корпусу жандараў і ахранных аддзяленьняў, а таксама ўсе асобы, якія прама або пабочна кіравалі дзейнасьцю паліцыі, жандармэрыі і карных органаў, як пры царскім урадзе, так і пры белых контр-рэвалюцыйных урадах, як-та: былыя міністры, іх таварышы, дырэктары дэпартамэнтаў міні-

стэрстваў, гэнэрал-губернатары, галоўныя начальнікі пры надзвычайнай ахране, ваенныя і грамадзянскія губэрнатары, віцэ-губэрнатары, а таксама і чыноўнікі для асобных даручэньняў пры іх; чыны міністэрства ўнутраных спраў, усе былыя служачыя турэмнага ведамства, члены цараваўшага дому, губерскія і павятовыя маршалкі, старшыні і члены крымінальных дэпартамэнтаў, а таксама пракуроры і таварышы пракурораў судовых палат; сьледчыя па асоба важных справах; старшыні і члены ваенных судоў; старшыні і члены сьледчых камісій, якія дзейнічалі на тэрыторыі контр-рэвалюцыйных урадаў; члены губэрскіх праўленьняў; земскія, сялянскія і павятовыя начальнікі і асобы, якія займалі да рэвалюцыі камандныя пасады ў дысцыплінарных батальёнах;

м) былыя і сучасныя служыцелі ўсіх рэлігійных культаў;

н) асобы, якія высланы ў адміністрацыйным парадку, на тэрміны іх высылкі, а таксама асобы, пазбаўленыя выбарчых правоў па прыгаворах судоў.

Увага: Асобы, якія знаходзяцца ў мясцох пазбаўленьня волі, у выбарах у саветы ўдзелу ня прымаюць.

о) члены семьяў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў па п. п. „а“, „б“, „в“, „г“ і „д“ арт. 71 Канстытуцыі БССР і па адпаведных ім пунктах гэтага артыкулу, у тых выпадках, калі яны знаходзяцца ў матар‘яльнай залежнасьці ад асоб, пазбаўленых выбарчых правоў і ня маюць крыніцай свайго існаваньня самастойнай грамадзка-карыснай працы;

Увага: Выбарчых правоў не пазбаўляюцца члены сем‘яў ніжэйшых служачых, паказаных у п. „л“ гэтага артыкулу.

п) асобы, якія прызнаны ва ўстаноўленым парадку псыхічна-хворымі або звар‘яцелымі.

22. Ня могуць быць пазбаўлены выбарчых правоў ніжэйнаступныя асобы, калі яны не пазбаўляюцца гэтых правоў па іншых падставах:

е) сяляне-земляробы, якія ўжываюць у сваей гаспадарцы наемную працу аднаго пастаяннага рабочага пры асобых акалічнасьцях, як-та: хвароба, мабілізацыя, прызыў у Рабоча-сялянскую Чырвоную армію, выбары на грамадзкую пасаду, якая патрабуе адрыву ад гаспадаркі і г. д. на ўвесь час данага становішча гаспадаркі;

б) земляробы, якія наймаюць сэзонную рабочую сілу ў час галоўных летніх работ для ўборкі хлеба, тэхнічных культур і траў у разьмерах, якія ўстанаўляюцца спэцыяльнымі пастановамі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР;

в) сяляне-земляробы, якія ўходзяць на сэзонныя работы і ўжываюць у сваёй гаспадарцы на час свайго ўходу на сэзонныя работы наёмную працу ня больш аднаго работніка, а таксама члены сем‘яў гэтых сялян;

г) рабочыя і члены сем‘яў рабочых фабрык і заводаў, якія не парвалі сувязі з сельскай гаспадаркай і якія ўжываюць у сваёй гаспадарцы наемную працу ня больш аднаго пастаяннага рабочага;

д) сяляне-земляробы і рыбакі, якія збываюць прадукты сваей працы на рынак;

е) уласьнікі жылых пабудоў, калі даход ад гэтых пабудоў не перавышае неабкладаемага падаходным падаткам мінімуму;

ж) уласьнікі рознародных прадпрыемстваў (маслабойка, крупадзёрка, шэрстабітка, млын аб адным падставе і г. д.) без мэханічных рухавікоў, якія не ўжываюць наёмнай працы, пры ўмове, калі яны не закабаляюць акаляючага насельніцтва шляхам здачы работ на дом і не здаюць паказаных прадпрыемстваў у арэнду;

з) саматужнікі і рамесьнікі, якія вядуць працоўную гаспадарку без ужываньня наемнай сілы, а таксама, якія карыстаюцца у сілу ўмоў вытворчасьці, наёмнай працай аднаго дарослага рабочага, або якія вядуць працоўную гаспадарку пры дапамозе працы двух вучняў.

Увага: Паказаныя ў гэтым пункце саматужнікі і рамесьнікі не пазбаўляюцца выбарчых правоў і ў тым выпадку, калі яны прадаюць на рынак вырабы выключна сваёй вытворчасьці.

і) прыцягнутыя ў свой час у рады белых армій, шляхам мабілізацыі, рабочыя, працоўныя сяляне і казакі, служачыя, саматужнікі і рамесьнікі.

к) тыя з былых афіцэраў і чыноўнікаў белых армій, якія потым былі ў радох Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі і прымалі актыўны ўдзел ва ўзброенай абароне савецкай улады, а таксама тыя, якія ў сучасны момант знаходзяцца на сапраўднай ваеннай службе ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі.

Увага: Пад актыўным удзелам ва ўзброенай ахове савецкай улады трэба разумець усякае выкананьне ў часы грамадзянскай вайны ваенных заданьняў у часьцях і кіраўніцтвах Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі, як на фронце, гэтак і ў тылу.

л) асобы, якія жывуць на прыбыткі ад выйгрышаў і на процанты ад дзяржаўных пазык, на прыбыткі ад зьберажэньняў, якія знаходзяцца ў дзяржаўных працоўных ашчадных касах.

Увага: Атрыманьне з-за мяжы грамадзянамі Саюзу ССР ва ўстаноўленым парадку грашовых сум і каштоўнасьцяў (пэнсія, спадчына, алімэнты, страхавыя ўзнагароды і г. д.) само па сябе ня зьяўляецца падставай для пазбаўленьня гэтых асоб выбарчых правоў.

м) інваліды працы і вайны, якія ў сілу асобых прычын займаюцца дробным гандлям і абкладаюцца прамысловым падаткам па арт. 5 росьпісу прадпрыемстваў і промыслаў, абкладаемых па цьвёрдых стаўках (дадатак 1-ы да Палажэньня аб прамысловым падатку з прыватных прадпрыемстваў і промыслаў), а таксама асобы, якія часова займаліся такім-жа дробным гандлям з прычыны беспрацоўя або часовай інваліднасьці;

н) асобы, якія атрымоўваюць за сваю працу процантную ўзнагароду ад дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый, а таксама акцыянэрных таварыстваў з пераважным удзелам дзяржаўнага або каапэрацыйнага капіталу;

о) асобы, якія па найму або па выбарах рэлігійных абшчын займаюцца адміністрацыйна-гаспадарчым і тэхнічным абслугоўваньнем рэлігійных абрадаў і будынкаў рэлігійных культаў, як-та: пеўчыя, вартаўнікі, прыбіральшчыкі, званары і д. п., а таксама члены прыхадзкіх саветаў;

п) асобы свабодных прафэсій, якія займаюцца грамадзка-карыснай працай;

р) члены сем'яў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, у тых выпадках, калі яны матар'яльна не залежаць ад гэтых асоб і крыніцай свайго існаваньня маюць самастойную грамадзка-карысную працу.

Не пазбаўляюцца выбарчых правоў таксама і дзеці асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, якія дасягнулі паўналецьця ў 1925 і ў наступныя гады і якія знаходзіліся да паўналецьця на ўтрыманьні бацькоў і якія займаюцца ў сучасны момант самастойнай грамадзка-карыснай працай, хоць-бы яны і пражывалі разам з бацькамі.

23. Пазбаўленьне выбарчых правоў мясцовымі органамі ўлады асоб, якія не падпадаюць пад дзейнасьць арт. 71 Канстытуцыі БССР і арт. 20 і 21 гэтай інструкцыі, забараняецца.

## III. Аб вядзеньні вучоту і аб складаньні сьпісаў грамадзян, пазбаўленых выбарчых правоў.

24. Вядзеньне пастаяннага паімённага вучоту асоб, пазбаўленых выбарчых правоў ускладаецца на сельскія, мястэчковыя і гарадзкія саветы. Гарадзкія саветы ажыцьцяўляюць вучот праз адпаведныя адміністрацыйныя органы (адміністрацыйныя аддзелы) або непасрэдна самі.

Вучот вядзецца па спэцыяльных формах і ў парадку, якія зацьверджаюцца Цэнтральнай Выбарчай Камісіяй па прадстаўленьні Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў.

Вучот асоб, пазбаўленых выбарчых правоў робіцца выключна па сьпісках, якія складаюцца і зацьвярджаюцца ў парадку, вызначаным у арт. 25 гэтай інструкцыі.

25. У час падрыхтоўкі і правядзеньня выбараў у саветы сьпісы асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, складаюцца выключна гарадзкімі, сельскімі і мястэчковымі выбарчымі камісіямі і зацьвярджаюцца у сельскіх мясцовасьцях—

раённымі выканаўчымі камітэтамі, а ў гарадох—гарадзкімі і раённымі саветамі па належнасьці. У пэрыяд паміж выбарчымі кампаніямі ў гэтыя сьпісы ўносяцца асобы, пазбаўленыя выбарчых правоў па суду і адміністрацыйна высланыя органамі АДПУ. У сельскіх мясцовасьцях унясеньне паказаных асоб у сьпісы пазбаўленых выбарчых правоў ускладаецца на раённыя выканаўчыя камітэты, а ў гарадох—на гарадзкія і раённыя саветы па належнасьці.

26. Чужаземцы, якія пражываюць на тэрыторыі Саюзу ССР і належаць да грамадзян непрацоўнай катэгорыі, паводле Канстытуцыі БССР і гэтай інструкцыі, выбарчых правоў ня маюць, але ў сьпісы асоб, пазбаўленых выбарчага права, ня ўносяцца.

27. Складаньне сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, робіцца на падставе дакумэнтальных даных.

28. На органы, якія вядуць вучот (арт. 24) ускладаецца зьбіраньне дакумэнтальных даных аб асобах, належачых пазбаўленьню выбарчых правоў.

Гэткімі данымі зьяўляюцца:

а) у адносінах асоб, якія ўжываюць наймовую працу з мэтай атрыманьня прыбыткаў, займаюцца гандлям, а таксама ў адносінах да іншых асоб, якія жывуць на непрацоўны прыбытак—весткі фінансавых органаў аб уплаце імі падаходнага, прамысловага падатку, даведкі і весткі страхавых кас аб уплаце імі страхавых уносаў, даведкі аб зданых ім у арэнду гандлёвых памяшканьняў і г. д.;

б) у адносінах асоб, пазбаўленых выбарчых правоў па суду—копіі прыгавароў або даведкі судовых органаў;

в) у адносінах звар'яцелых і псыхічнахворых—акты органаў аховы здароўя або завераныя копіі гэтых актаў;

г) у адносінах служачых і агэнтаў былой паліцыі і ўсіх іншых асоб, паказаных у арт. 21 гэтай інструкцыі,—даведкі адміністрацыйных органаў, пастановы сельскіх і местачковых саветаў або весткі органаў АДПУ.

29. Органы, якія вядуць вучот, накіроўваюць адпаведным сельскім, местачковым і гарадзкім выбарчым камісіям увесь сабраны, дакладна правераны і сыстэматызаваны імі матар'ял, які зьяўляецца падставай для складаньня сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў.

Складзеныя выбарчымі камісіямі сьпісы падаюцца ў раённы выканаўчы камітэт, гарадзкі або раённы савет па належнасьці.

30. Зацьвярджаемыя паводле арт. 25 гэтай інструкцыі раённымі выканаўчымі камітэтамі, гарадзкімі і раённымі саветамі сьпісы грамадзян, пазбаўленых выбарчых правоў, публікуюцца да агульнага ведама ў органах друку альбо шляхам вывешваньня не пазьней як за 20 дзён да начала выбараў адпаведнага савету.

31. Выключэньне з зацьверджаных сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, тых грамадзян, якія няправільна ўключаны ў гэтыя сьпісы, робіцца як органамі, што зацьвярджаюць гэтыя сьпісы (раённымі выканаўчымі камітэтамі, гарадзкімі і раённымі саветамі па належнасьці), так і Цэнтральнай Выбарчай Камісіяй.

## IV. Аб парадку разгляду скаргаў на пастановы аб пазбаўленьні выбарчага права.

32. Асобы, якія ўнесяны ў сьпісы пазбаўленых выбарчых правоў, маюць права абскардзіць гэтыя пастановы ў парадку вызначаным у арт. арт. 33—37 гэтай інструкцыі.

33. Скаргі падаюцца грамадзянамі ў выбарчую камісію, якая склала сьпіс.

34. Выбарчая камісія, атрымаўшы скаргу, абавязана ў трохдзённы тэрмін з моманту яе атрыманьня пераслаць яе са сваім заключэньнем у той раённы выканаўчы камітэт, гарадзкі або раённы савет, які зацьвердзіў сьпіс асоб, пазбаўленых выбарчых правоў.

Сельскія і местачковыя выбарчыя камісіі накіроўваюць паступіўшыя да іх скаргі ў раённы выканаўчы камітэт праз раённую выбарчую камісію.

35. Скаргі, якія паступаюць у раённую выбарчую камісію або ў гарадзкую выбарчую камісію разглядаюцца імі ў трохдзённы тэрмін і з іх заключэньнямі накіроўваюцца ў раённы выканаўчы камітэт або гарадзкі савет па належнасьці.

Прэзыдыум раённага выканаўчага камітэту або прэзыдыум гарадзкога савету разглядаюць скаргу ў 3-х дзённы тэрмін і сваю пастанову паведамляюць скаргніку праз адпаведную выбарчую камісію.

36. Скаргі грамадзян на няправільнае ўключэньне іх раённымі выканаўчымі камітэтамі або гарадзкімі саветамі ў сьпісы асоб, пазбаўленых выбарчых правоў падаюцца: на пастановы гарадзкіх саветаў, падпарадкаваных раённым выканаўчым камітэтам—у раённыя выканаўчыя камітэты; на пастановы раённых выканаўчых камітэтаў і гарадзкіх саветаў, якія непасрэдна падпарадкаваны Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР—у Цэнтральную выбарчую камісію. Цэнтральная выбарчая камісія разглядае паступіўшыя да яе скаргі ў 7-мі дзённы тэрмін і аб сваіх пастановах паведамляе скаргнікам.

37. Па сканчэньні работ выбарчых камісій разгляд скаргаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, робіцца адпаведнымі саветамі або раённымі выканаўчымі камітэтамі.

38. Звароты да ўрадавых установ і да службовых асоб па справах аб выбарах і выдаваемыя гэтымі ўстановамі і асобамі дакумэнты і даведкі па справах аб выбарах вызваляюцца ад збораў.

39. Да грамадзян, якія падалі скаргу ў вышэйстаячыя органы ўлады на няправільнае пазбаўленьне іх выбарчых правоў, да канчатковага разгляду іх скарг ня могуць ужывацца ніякія абмяжаваньня права ўдзелу ў выбарах у саветы.

40. Асобы, якія перашкаджаюць выбаршчыкам ажыцьцяўляць іх выбарчыя правы, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці.

## V. Аб парадку аднаўленьня ў выбарчых правох.

41. Асобы, пазбаўленыя выбарчых правоў з прычыны належнасьці іх да клясы эксплёататараў (абшарнікі, буржуазія, служыцелі рэлігійных культаў), а таксама былыя ніжэйшыя тэхнічныя служачыя паліцыі, жандармэры і турэмнага ведамства, могуць быць адноўлены ў выбрчых правох пры ўмове, калі яны ў працягу ня менш 5-ці год займаюцца вытворчай і грамадзка-карыснай працай і давялі сваю лёяльнасьць да савецкай улады. Гэтыя асобы аднаўляюцца ў выбарчых правох па пастановах раённай выбарчай камісіі, а ў гарадох, непасрэдна падпарадкаваных Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, —па пастановах гарадзкой выбарчай камісіі, з наступным зацьверджаньнем гэтых пастаноў адпаведнымі раённымі выканаўчымі камітэтамі або гарадзкімі саветамі.

Увага: Тыя з паказаных у гэтым артыкуле асоб, якія састаяць членамі прафсаюза, могуць быць, пры наяўнасьці адпаведных хадайнічаньняў, адноўлены ў выбарчых правох паказанымі органамі і без пяцігадовага працоўнага стажу.

42. Асобы, пазбаўленыя выбарчых правоў на падставе арт. 71 Канстытуцыі БССР і паказаныя ў п. „л“ арт. 21 гэтай інструкцыі, за выключэньнем ніжэйшых тэхнічных служачых паліцыі, жандармэрыі і турэмнага ведамства, памянутых у арт. 41 гэтай Інструкцыі, могуць быць у паасобных выпадках адноўлены ў выбарчых правох асобымі пастановамі Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР пры ўмове, калі яны ў сучасны момант займаюцца вытворчай і грамадзка-карыснай працай і давялі сваю лёяльнасьць да савецкай улады.

43. Адміністрацыйна высланыя, а таксама асобы, у адносінах якіх адбыліся судовыя прыгаворы, што пазбаўляюць іх выбарчага права (арт. 21, п. „н“), аднаўляюцца ў выбарчых правох, калі яны не пазбаўлены гэтых правоў па іншых падставах з моманту спыненьня дзейнасьці ў адносінах да іх мер адміністрацыйнай або судовай рэпрэсіі, без спэцыяльнай пастановы адпаведных органаў улады.

44. Асобы, адноўленыя ў выбарчых правох вышэйстаячымі саветамі і выканаўчымі камітэтамі, ня могуць быць пазбаўлены выбарчых правоў па тых-жа падставах ніжэйстаячымі органамі ўлады.

45. Асобы, якім было адмоўлена ў задаваленьні іх хадайнічаньняў пастановай Прэзыдыуму ЦВК БССР, могуць зноў хадайнічаць не раней як праз год з дню пастановы Прэзыдыуму ЦВК. Выключэньні могуць быць зроблены толь-

кі з прычыны новых акалічнасьцяй або хадайнічаньняў прафэсыянальных або грамадзкіх арганізацый.

### VI. Аб выбарчых сходах.

46. Выбары членаў саветаў адбываюцца на выбарчых сходах.

47. Выбарчыя сходы склікаюцца выбарчай камісіяй або яе ўпаўнаважаным шляхам рассылкі выбарчых позваў не пазьней як за 5 дзён да выбарчага сходу.

48. У гарадох, рабочых пасёлках і пасёлках гарадзкога тыпу, а таксама ў буйных саўгасах выбарчыя сходы арганізуюцца па вытворчых адзінках (прадпрыемствах, установах), прафэсыянальных саюзах і буйных саўгасах.

На буйных прамысловых прадпрыемствах выбарчыя сходы могуць адбывацца па асобных цэхах або зьменах, з дазволу адпаведнага гарадзкога савету або раённага выканаўчага камітэту.

Грамадзяне, якія не працуюць на прадпрыемствах і якія не арганізаваны ў прафэсыянальныя саюзы, як-та: саматужнікі, хатнія гаспадыні, ізвозчыкі і г. д. прымаюць удзел у выбарах альбо разам з астатнімі выбаршчыкамі на вытворчых або прафэсыянальных сходах, або па тэрытарыяльных адзінках (раёнах, вучастках і г. д.)

Рабочыя машынна-трактарных станцый і дробных саўгасаў прымаюць удзел у выбарах бліжэйшага сельскага савету.

У сельскіх мясцовасьцях буйныя паселішчы для выбараў у саветы могуць падзяляцца на выбарчыя вучасткі, прычым кампактныя групы нацменшасьцяй могуць быць выдзелены ў асобныя вучасткі па нацыянальнай адзнацы.

Калгасьнікі, як правіла, прымаюць удзел у выбарах разам з астатнім насельніцтвам вёскі.

Выбаршчыкі—хутаране і атрубшчыкі для выбараў у саветы далучаюцца да бліжэйшага паселішча, якое ўваходзіць у раён выбіраемага сельскага савету.

49. Выбарчы сход лічыцца правамоцным, калі на сходзе прымаюць удзел ня менш 40 проц. асоб, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах данага выбарчага вучастку ў сельскіх мясцовасьцях і ня менш 50 проц. у гарадох.

Калі на сход зьявіцца менш патрэбнай колькасьці выбаршчыкаў, выбарчы сход лічыцца не адбыўшымся, аб чым складаецца пратакол. Новы сход склікаецца ў тым жа парадку, што і першы.

50. На выбарчыя сходы дапускаюцца толькі асобы, якія карыстаюцца выбарчымі правамі. На сходах павінен быць зроблен дакладны падлік усіх выбаршчыкаў што зьявіліся на выбары.

51. Выбарчыя сходы адчыняюцца ўпаўнаважанай для гэтага выбарчай камісіяй асобай і вядуцца выбіраемым у складзе 3-х асоб прэзыдыумам пад старшынствам ўпаўнаважанага выбарчай камісіі.

52. Па адчыненьні выбарчага сходу старшыня павінен:

а) азнаёміць сход з парадкам выбараў і зачытаць арт. арт. 70 і 71 Канстытуцыі БССР аб асобах, якія маюць выбарчыя правы і аб пазбаўленых выбарчых правоў;

б) паведаміць лік выбаршчыкаў і колькі з іх зьявілася на сход;

в) агаласіць сьпісы кандыдатаў, а таксама імя і прозьвішча асобных кандыдатаў, выстаўленых да выбарчага сходу;

г) агаласіць лік асоб, належачых да выбараў на даным выбарчым сходзе.

53. Галасаваньне на выбарах адбываецца або па сьпісках, або па асобных кандыдатурах—па пастанове выбарчага сходу.

Увага 1. Выбарчыя камісіі і іх упаўнаважаныя ня маюць права высоўваць ад сябе і прапанаваць выбаршчыкам ні асобных кандыдатаў, ні кандыдацкіх сьпісаў.

Увага 2. Кандыдацкія сьпісы або асобныя кандыдатуры могуць прапанавацца грамадзкімі, партыйнымі і прафэсыянальнымі арганізацыямі на выбарчым сходзе або апублікоўвацца да выбарчага сходу праз друк або шляхам вывешваньня. Галасаваньне па сьпісках не адхіляе магчымасьці адводу асобных кандыдатаў, уключаных у сьпісы.

54. Выбары праводзяцца адчыненым галасаваньнем. Выбранымі ў члены саветаў лічацца асобы, якія атрымалі пры галасаваньні большасьць галасоў выбаршчыкаў, што прысутнічалі на выбарчым сходзе.

55. У гарадох, якія маюць раённыя саветы, выбарчыя сходы, апроч выбараў дэпутатаў у гарадзкі савет, выбіраюць дэпутатаў і ў раённы савет. Выбары дэпутатаў у гарадзкі і раённы савет робяцца паасобным галасаваньнем.

56. Выбарчыя сходы адначасова з выбарамі членаў савета выбіраюць і кандыдатаў у колькасьці аднэй трацiны.

Члены савету і кандыдаты абіраюцца паасобным галасаваньнем.

У тых мясцовасьцях, дзе колькасьць выбарчых вучасткаў больш за лік належачых да абраньня кандыдатаў у члены савету, парадак выбараў апошніх вызначаецца выбарчымі камісіямі.

57. Аб ходзе выбарчага сходу прэзыдыумам сходу складаецца і падпісваецца пратакол.

58. Усе заявы і скаргі на правядзеньне выбараў падаюцца ў 7-мі дзённы тэрмін з моманту скнчэньня выбараў у пісьмовай альбо вуснай форме ў адпаведную выбарчую камісію, якая абавязана скаргі са сваімі тлумачэньнямі накіраваць у трох дзённы тэрмін у вышэйстаячую выбарчую камісію.

Вышэйстаячая выбарчая камісія абавязана разглядаць гэтыя скаргі і заявы ў тыднёвы тэрмін з дню іх паступленьня.

59. Падставай для скасаваньня выбараў зьяўляецца парушэньне Канстытуцыі Саюзу ССР, Канстытуцыі БССР, выбарчага законадаўства Саюзу ССР і БССР. Аб скасаваньні выбараў даводзіцца да агульнага ведама або шляхам публікацыі ў мясцовай газэце або на сходах выбаршчыкаў.

60. Скасаваньне выбараў у выпадку парушэньня выбарчага законадаўства Саюзу ССР і БССР робіцца поўнасьцю ў адносінах усяго складу членаў савета пастановамі вышэйстаячага выканаўчага камітэту або савету, альбо часткова ў адносінах асобных членаў савету па асобных выбарчых вучастках (вытворчых адзінках, прафэсыянальных саюзах і інш.)—пастановамі гарадзкога, сельскага або мястэчковага савету. Скасаваньне выбараў поўнасьцю ў адносінах раённых саветаў у гарадох робіцца па пастанове адпаведнага гарадзкога савету.

61. Выбары касуюцца поўнасьцю, калі больш чым палова дэпутатаў выбрана з парушэньнем выбарчага законадаўства і Канстытуцыі Саюзу ССР і БССР і часткова—па асобных выбарчых вучастках, калі парушэньне мела месца толькі ў адным або некалькіх выбарчых вучастках.

62. Для правядзеньня новых выбараў назначаецца новы склад адпаведнай выбарчай камісіі, калі выбары скасаваны поўнасьцю і новы ўпаўнаважаны, калі выбары скасаваны часткова.

63. Адначасова з выбарамі сельскага і мястэчковага савету выбіраюцца паасобным ад выбараў у саветы галасаваньнем сельскія і мястэчковыя рэвізыйныя камісіі ў складзе 3-х членаў і 2-х кандыдатаў.

## VII. Аб давыбарах дэпутатаў у саветы.

64. Для папаўненьня складу саветаў з прычыны адкліканьня дэпутатаў выбаршчыкамі, страты выбарчых правоў і інш. і адсутнічаньня кандыдатаў—назначаюцца давыбары.

65. Для правядзеньня давыбараў у сельскі або мястэчковы савет раённымі выканаўчымі камітэтамі назначаецца ўпаўнаважаны; для правядзеньня давыбараў у гарадзкі або раённы савет упаўнаважаныя назначаюцца адпаведнымі гарадзкімі або раённымі саветамі.

66. Пры давыбарах дэпутатаў на выбарчых сходах могуць прымаць удзел як тыя выбаршчыкі, што прымалі ўдзел у выбарах выбыўшага дэпутата, гэтак і тыя, што зноў прыбылі ў дадзены сельскі савет, мястэчка або горад.

## VIII. Аб скліканьні зьездаў саветаў.

67. Зьезды саветаў склікаюцца адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі ў парадку, вызначаным законадаўствам Саюзу ССР і БССР.

68. Для праверкі правільнасьці выбараў на зьезды саветаў і паўнамоцтваў іх дэпутатаў зьезды выбіраюць мандатныя камісіі.

Пастановы мандатных камісій зацьвярджаюцца зьездамі саветаў.

69. Зьезды саветаў могуць выбіраць у склад сваіх прэзыдыумаў або сваіх выканаўчых камітэтаў, а таксама сваімі прадстаўнікамі на вышэйстаячыя зьезды саветаў ня толькі членаў гэтых зьез-

даў, але і наогул усіх грамадзян, якія карыстаюцца выбарчымі правамі, незалежна ад месца іх пражываньня або работы.

70. У час работ зьезду выканаўчым органам улады застаецца адпаведны выканаўчы камітэт ранейшага складу, дзейнасьць якога спыняецца толькі пасьля скліканьня першага пасяджэньня выканаўчага камітэту новага складу.

71. Члены перавыбіраемага выканаўчага камітэту, якія не зьяўляюцца дэлегатамі зьезду, карыстаюцца на зьезьдзе правам дарадчага голасу.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

15 лістапада 1930 г.
г. Менск.

## Усім выбарчым камісіям пры райвыканкомах і саветах.

У мэтах забясьпечаньня пасьпяховага правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў, як важнейшай палітычна-масавай кампаніі, якая будзе праходзіць ва ўмовах надзвычайна абвостранай клясавай барацьбы на фоне шырокага сацыялістычнага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі па ўсім фронце, а таксама ў мэтах правільнага вядзеньня ўсяго выбарчага вучоту і своечасовай падачы ў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР інфармацыйнай і статыстычнай справаздачнасьці аб падрыхтоўчай рабоце да перавыбараў у саветы і аб ходзе перавыбараў, Цэнтральная Выбарчая Камісія ў выкананьне пастаноў і дырэктыў Прэзыдыуму ЦВК БССР аб правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў прапануе:

1. Шырока разгарнуць падрыхтоўчую работу сярод батрацтва, беднаты, калгасьнікаў, савецкага актыву, жанчынработніц, батрачак, бяднячак, калгасьніц і актывістак сераднячак, прафсаюзных і грамадзкіх арганізацыі з тым, каб паставіць яе ў цэнтры ўвагі усіх гэтых пластоў выбаршчыкаў, установ і арганізацый і ўсяе савецкае грамадзкасьці, забясьпечыўшы максымальны ўдзел на справаздачна-перавыбарчых сходах усяе масы выбаршчыкаў.

Зьвярнуць асаблівую ўвагу на правільную і своечасовую праверку і складаньне сьпісаў выбаршчыкаў і асоб, пазбаўленых выбарчага права з тым, каб гэта работа была поўнасьцю скончана да пачатку справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

Пры праверцы і складаньні сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчага права, зьвярнуць асаблівую ўвагу на тое, каб кожная асоба, якая згодна выбарчага законадаўства Саюзу ССР і БССР падлягае пазбаўленьню выбарчых правоў, была апошніх пазбаўлена, недапушчаючы пры гэтым ніякіх адступленьняў ад інструкцыі ЦВК Саюзу ССР і БССР аб выбарах у саветы. З гэтаю мэтай склад выбарчых камісій павінен быць забясьпечан рабочымі з вытворчасьці, батракамі, беднякамі, калгасьнікамі і серадняцкім актывам вёскі. Да работы па праверцы сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчага права, шырока прыцягнуць рабочых, беднату, батракоў і калгасьнікаў, а таксама ўсю савецкую грамадзкасьць і асабліва рабочыя брыгады.

Забясьпечыць уцягненьне ў склад выбарчых камісій жанчын-работніц, батрачак, бяднячак, калгасьніц і актывістак сераднячак, а таксама прадстаўнікоў нацменшасьцяй і Чырвонай Арміі.

Прымацаваць упаўнаважаных раённых выбарчых камісій да сельскіх, местачковых і гарадзкіх камісій і арганізаваць пасылку ў дапамогу ім дастатковую колькасьць працаўнікоў на час праха-джэньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

2. Забясьпечыць своечасовы і ўважлівы разгляд скарг на няправільнае пазбаўленьне выбарчых правоў у прадугледжаныя інструкцыяй аб выбарах у саветы тэрміны.

3. Сетку справаздачна- перавыбарчых вучасткаў пабудаваць так, каб стварыць найлепшыя ўмовы пралетарска-бядняцкага ўплыву і для максымальнага ўдзелу выбаршчыкаў на справаздачна-перавыбарчых сходах. Загадзьдзя падшукаць, вызначыць і прыстасаваць адпаведныя

памяшканьні для сходаў. Колькасьць выбаршчыкаў у сярэднім на выбарчы вучастак не павінна перавышаць 200—250 чалавек.

Цэнтры справаздачна-перавыбарчых вучасткаў арганізаваць пры прадпрыемствах, саўгасах, калгасах, калі яны зьяўляюцца цэнтрамі гэтых вучасткаў, улічваючы набліжэньне іх да выбаршчыкаў і спрыяючую магчымасьць павялічэньню ўдзелу ў выбарах, а таксама ўлічыць неабходнасьць арганізацыі вучасткаў там, дзе пераважная колькасьць складае насельніцтва нацменшасьцяй, забясьпечыўшы абслугоўваньне гэтых вучасткаў дакладчыкамі на мовах даных нацменшасьцяй.

4. Выбарчым камісіям безадкладна скласьці каляндарныя пляны работы па правядзеньню кампаніі, увязаўшы іх з работай саветаў і выканкомаў і давесьці да ведама аб іх працоўнае насельніцтва шляхам вывешваньня на відных мясцох альбо апублікаваньня.

Прымаючы пад ўвагу абмяжованы час для правядзеньня справаздачна-перавыбарчай кампаніі, неабходна каляндарныя пляны правядзеньня падрыхтоўчай работы з батрацтвам, беднатой, калгасьнікамі, савецкім, прафсаюзным і грамадзкім актывам, а таксама правядзеньня справаздач і перавыбараў саветаў пабудаваць так, каб падрыхтоўчая работа да перавыбараў і справаздачнасьць саветаў перад выбаршчыкамі зьявілася фактарам, забясьпечваючым актыўны ўдзел выбаршчыкаў па перавыбарчых сходах.

5. Да актыўнага ўдзелу ў кампаніі павінны быць прыцягнуты ўсе рабочыя і батрацка-бядняцкія масы выбаршчыкаў, арганізаваны ініцыятыўныя групы і абсьледвацельскія брыгады для дапамогі ў правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі. У гэтых мэтах прапрацаваць задачы кампаніі, а таксама такія важнейшыя пытаньні як абгаварэньне работы саветаў і іх новых задач, кандыдатур у склады саветаў і наказаў выбаршчыкаў на нарадах, канфэрэнцыях і сходах прафактыву, на рабочых сходах, на сходах і канфэрэнцыях батрацтва, групах бедната, якія павінны быць праведзены папярэдне на кожным вучастку, прыцягнуўшы ў дапамогу правядзеньня іх, пад кіраўніцтвам партыйных ячэяк, камсамол, батрацка-бядняцкія групы, калгасьнікаў, савецкі актыў (настаўнікі, урачы, аграномы і г. д.), а таксама арганізаваць папярэдні збор прапаноў да наказаў выбаршчыкаў.

6. Разгарнуць шырокую работу сярод жанчын-работніц, батрачак, бяднячак, калгасьніц і актывістак сераднячак, а таксама сярод жонак рабочых і служачых, шляхам правядзеньня сходаў жанчын па ўсіх вучастках, нарад актывістак, дэлегацкіх сходаў і г. д. Арганізаваць з удзелам піянэраў, вучняў, камсамолу, дэлегацкіх сходаў жанчын, каапэрацыі і інш. арганізацый шэраг практычных мерапрыемстваў, якія забясьпечвалі-б найбольш поўны ўдзел жанчын на справаздачна-перавыбарчых сходах (арганізацыя брыгад няняк, часовых ясьляў, запрашэньне на сходы і г. д.).

У першую чаргу гэтай справай павінны заняцца і арганізаваць яе камісіі і сэкцыі па палепшаньні працы і быту працоўных жанчын.

7. Культасьветныя і палітасьветныя ўстановы—клюбы, нардамы, хаты-чытальні, тэатры, чырвоныя куткі і г. д. павінны прыняць самы актыўны ўдзел у правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў, праводзячы шырокую агітацыйна-прапагандыцкую работу сярод выбаршчыкаў.

8. Маючы на ўвазе неабходнасьць шырокага асьвятленьня ходу справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў у друку, выбарчыя камісіі павінны сваечасова інфармаваць цэнтральны і мясцовы друк аб усіх момантах ходу кампаніі з тым, каб сваечасова асьвятляць лепшую арганізацыю выбараў і сыгналізаваць аб усіх недахопах, шырока скарыстоўваючы для гэтага рабселькораўскі актыў.

Насьценгазэты павінны быць поўнасьцю мабілізаваны і прыстасаваны ў сваёй рабоце да справаздачна-перьвыбарчай кампаніі.

9. Для ўдзелу ў кампаніі і для дапамогі ў яе правядзеньні павінны быць уцягнуты ўсе грамадзкія арганізацыі і ўстановы: прафсаюзы, камсамол, усе віды каапэрацыі, КСУ, навучальныя, культасьветныя і інш. установы, кіно, радыё, працоўная вясковая інтэлігэнцыя, дэмабілізаваныя чырвонаармейцы і г. д., вы-

конваючы пэўную і канкрэтную работу і ў першую чаргу работу па актывізацыі ўсяе масы выбаршчыкаў.

10. Надаючы асаблівую ўвагу ўдзелу Чырвонай Арміі ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў, выбарчыя камісіі павінны ўсебакова асьвятліць перад усёй масай чырвонаармейцаў, пераменьнікаў і дапрызыўнікаў значэньне і палітычныя задачы кампаніі. Адначасова паставіць і высьвятліць перад выбаршчыкамі задачы па ўзмацненьню абароназдольнасьці краіны, пазнаёміць працоўных з жыцьцём і бытам чырвонаармейцаў.

11. Справаздачы саветаў перад выбаршчыкамі павінны быць сваечасова падрыхтаваны, прап ацаваны і зацьверджаны пленумамі саветаў, якія павінны ўсебакова ахопліваць удзел саветаў і выканкомаў ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва, палепшаньня народнай гаспадаркі і пралятарскай культуры, правядзеньня ўсіх гаспадарчых кампаній, мерапрыемствы па забясьпечаньню і абслугоўваньню рабочых, батрацтва, беднаты і калгасьнікаў, удзел па ажыцьцяўленьню закону аб увядзеньні ўсеагульнага навучаньня і ліквідацыі няпісьменнасьці і г. д. У справаздачах саветаў павінна быць асабліва чотка адбіты мерапрыемствы, якія праводзіліся саветамі па перабудове сельскай гаспадаркі па сацыялістычнаму шляху і ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, а таксама вызначаны далейшыя канкрэтныя задачы, якія стаяць перад імі ў сучасны рэканструкцыйны пэрыяд. Час для справаздачнасьці і выбараў павінен быць загадзя чотка вызначан у каляндарным пляне выбараў.

Да справаздачнасьці перад выбаршчыкамі прыцягнуць, апрача прэзыдумаў саветаў і іх рэвізыйных камісій, таксама ўсіх дэпутатаў, сэкцыі і камісіі.

12. Рэвізыйныя камісіі павінны даскапала праверыць усю работу саветаў і іх камісій, удзел іх і кіраўніцтва ў справе выкананьня прамфінплянаў, калектывізацыі сельскай гаспадаркі, мабілізацыі сродкаў насельніцтва ў справу сацыялістычнага будаўніцтва, правядзеньня гаспадарчых кампаній (хлебазагатоўкі, пасеўныя кампаніі, рэалізацыя пазык і г. д.), скарыстаньне і рэалізацыя сродкаў самаабкладаньня, выкананьне каштарысаў і бюджэтаў і далажыць аб гэтым на справаздачна-перавыбарчых сходах, гэтак сама і аб сваёй дзейнасьці і ўдзеле ў гэтых мерапрыемствах.

13. Неабходна дасканала і сваечасова распрацаваць наказы дэпутатам, у якіх павінны быць адбіты, як агульныя задачы, гэтак і задачы, ў якія маюць найбольшае значэньне ў даных мясцовых умовах.

Канкрэтная частка наказаў павінна складацца з поўным улікам запатрабаваньняў выбаршчыкаў і рэальнасьцю іх выкананьня, у поўнай адпаведнасьці з агульна-палітычнымі задачамі, якія стаяць перад саветамі. Наказы павінны быць прапрацованы на сходах прафактыву, батрацтва, беднаты, дэлегацкіх сходах жанчын. У канкрэтнай частцы наказаў павінны быць поўна вызначаны мерапрыемствы і задачы саветаў па выкананьню прамфінплянаў, падвышэньню вытворчасьці працы і яе рацыяналізацыі, сацыялістычнай арганізацыі быту і ў прыватнасьці палепшаньне быту працоўных жанчын, палепшаньне забясьпечаньня рабочых, падняцьце на належную ступень масавай работы саветаў і палепшаньне сувязі саветаў з выбаршчыкамі. У наказах павінны быць вызначаны мерапрыемствы па арганізацыі новых калгасаў і прыліву бядняцка-серадняцкіх мас сялянства ва ўжо існуючыя, з вызначэньнем пэўных мерапрыемстваў па палепшаньню арганізацыі працы і падвышэньню вытворчасьці ў калгасах. У наказах таксама павінны быць канкрэтна вызначаны мерапрыемствы, якія забясьпечваюць пасьпяховае правядзеньне важнейшых палітычна-гаспадарчых кампаній, (пасеўкампаніі, хлебазагатоўкі, рэалізацыя пазык, самаабкладаньне і г. д.).

14. Паставіць асноўнай задачай выбарчых камісій павялічэньне ў складах саветаў рабочых, батракоў, беднякоў, калгасьнікаў і лепшых серадпякоў, забясьпечыўшы пралятарскі ўплыў і яго кіруючую ролю.

Падрыхтоўка кандыдатур павінна праходзіць у шырока масавым парадку

праз сходы батрацтва і беднаты, рабочыя брыгады, дэлегацкія і агульныя сходы жанчын-батрачак, бяднячак і калгасьніц, сходы і нарады актыву, камсамолу, прафэсыянальных і грамадзкіх арганізацый.

У гэтую справаздачна-перавыбарчую кампанію неабходна дабіцца павялічэньня ў складах саветаў жанчын, асабліва з ліку батрачак, бяднячак, калгасьніц і актывістак серадднячак, а таксама і ў кіруючых органах саветаў.

Неабходна максымальна згуртаваць усю батрацка-бядняцкую масу выбаршчыкаў і выбаршчыц для арганізаванага адстойваньня высоўваемых імі кандыдатур.

Адначасова справаздачна-перавыбарчая кампанія саветаў павінна быць шырока выкарыстана для выяўленьня лепшых кадраў рабочага і батрацка-бядняцкага актыву ўсіх нацыянальнасьцяй і вылучэньня іх у вышэйшыя і мясцовыя органы ўлады.

15. Забясьпечыць свае асовую рассылку выбаршчыкам позваў на справаздачна-перавыбарчыя сходы з такім разьлікам, каб кожны выбаршчык і выбаршчыца атрымалі позвы не пазьней як за 5 дзён да выбарчага сходу.

16. Выбарчыя камісіі, саветы, выканкомы, установы і арганізацыі павінны шырока разгарнуць сыстэму сацыялістычнага спаборніцтва ў мэтах максымальнага ўцягненьня для ўдзелу ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі ўсяе масы выбаршчыкаў і лепшага правядзеньня справаздач і перавыбараў, а таксама ўсіх палітычна-гаспадарчых мерапрыемстваў, якія будуць праводзіцца ў часе справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў.

17. Правядзеньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі цесна ўвязаць з праводзімымі на вёсцы палітычна-гаспадарчымі кампаніямі з тым, каб правядзеньне іх ня толькі ня было паслаблена, а наадварот, мабілізуючы вакол правядзеньня іх усю масу выбаршчыкаў, дабіцца максымальнага ўзмацненьня, даючы жорсткі адпор кулацтву і ўсім варожым элемэнтам, якія будуць імкнуцца пашкодзіць пасьпяховаму правядзеньню як справаздачна-перавыбарчай кампаніі, гэтак і ўсіх іншых палітычна-гаспадарчых мерапрыемстваў партыі і савецкай улады на вёсцы.

18. Прымаючы пад увагу, што ўвесь выбарчы вучот і статыстычная справаздачнасьць у чарговую перавыбарчую кампанію саветаў будзе праходзіць па нанава распрацаваных формах і ў мэтах правільнага складаньня і сваечасовай падачы сельскімі, мястэчковымі і гарадзкімі саветамі (падпарадкаваных РВК гарадоў) выбарчай статыстычнай і інфармацыйнай справаздачнасьці ў Райвыканкомы, а апошнімі ў ЦВК БССР, неабходна ў часе падрыхтоўкі да перавыбараў склікаць нараду старшынь, сельскіх, мястэчковых і гарадзкіх выбарчых камісій і сакратароў саветаў, на якой прапрацаваць інструкцыю аб выбарах у саветы і парадак вядзеньня выбарчага вучоту, складаньне і распрацоўку статыстычнай і інфармацыйнай справаздачнасьці.

19. На падставе пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР ад 20 кастрычніка г. г. „аб тэрмінах падачы раённымі выканаўчымі камітэтамі і саветамі выбарчай справаздачнасьці (Савецкая Беларусь ад 21 кастрычніка г. г.) устанаўляюцца наступныя тэрміны падачы райвыканкомамі ў ЦВК БССР выбарчай справаздачнасьці:

а) папярэднія весткі аб выбарах у саветы і інфармацыйныя зводкі аб падрыхтоўчай рабоце да перавыбараў і аб ходзе перавыбарчай кампаніі падаюцца кожнага 10, 20 і 30 чысла, пачынаючы з лістапада месяца 1930 году;

б) папярэдняя статыстычная справаздача, разам з інфармацыйнымі зводкамі аб выніках перавыбараў, падаецца не пазьней як праз 10 дзён пасьля сканчэньня выбараў;

в) канчатковая статыстычная справаздача, разам з канчатковай інфармацыйнай зводнай, падаецца не пазьней як праз месяц пасьля сканчэньня выбараў.

Усе даныя інфармацыйных зводак павінны быць падмацаваны дакладнымі лічбамі і падавацца ў ЦВК БССР за подпісамі старшынь і сакратароў выбарчых камісій у вышэйвызначаныя тэрміны.

Неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на поўнасьць вучоту выступленьняў па

справаздачах саветаў і выканкомаў, наказах выбаршчыкаў, дадаткаў да апошніх, высоўваемых у саветы кандыдатурах і г. д. паасобных сацыяльных праслояк выбаршчыкаў.

Весткі аб складзе сельскіх, местачковых, гарадзкіх і раённых выбарчых камісій падаць у Цэнтральную Выбарчую Камісію не пазьней 20 лістапада г. г. па прыкладзенай пры гэтым форме.

Адказнасьць за своечасовае складаньне, распрацоўку і падачу статыстычнай і інфармацыйнай справаздачнасьці ў ЦВК БССР ускласьці на Райвыканкомы і Гарсаветы.

Старшыня Цэнтральнай Выбарчай Камісіі пры ЦВК БССР
**А. Хацкевіч.**

Адказны Сакратар Цэнтральнай Выбарчай Камісіі **Мікуліч.**

11 лістапада 1930 г.
г. Менск.

---



Выданьне **Прэзыдыуму ЦВК БССР** Рэдактар—Рэдкалегія

# На 1931 год

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

### на ЧАСОПІС ПА ПЫТАНЬНЯХ САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# Саветы Беларусі

ВЫДАНЬНЕ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ БССР.

## ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЦ

**Існуе з верасьня 1928 году, ЯК ДАДАТАК ДА ГАЗЭТЫ „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“; з сьнежня 1929 г. РЭАРГАНІЗАВАНЫ**

## ў АСОБНЫ ЧАСОПІС

Часопіс „САВЕТЫ БЕЛАРУСІ“ ставіць сваёю мэтаю ўзброіць кожнага нізавога савецкага работніка і актывістага палітычнымі ведамі, арганізацыйным і практычным вопытам, неабходным пры ажыцьцяўленьні чарговых задач сацыялістычнага будаўніцтва.

Часопіс дае кіруючыя артыкулы па важнейшых палітычна-гаспадарчых пытаньнях бягучага дня.

Часопіс у папулярнай форме сыстэматычна знаёміць сваіх чытачоў з усімі важнейшымі законамі і мерапрыемствамі Ураду і дае практычныя паказаньні аб спосабах іх лепшага правядзеньня ў жыцьцё.

Значнае месца на старонках „САВЕТЫ БЕЛАРУСІ“ адводзіцца высьвятленьню станоўчага і адмоўнага вопыту працы асобных саветаў, раёнаў і акруг цалкам і па галінах.

**„САВЕТЫ БЕЛАРУСІ“** пэрыядычна будуць знаёміць сваіх чытачоў з вопытам савецкага будаўніцтва ў іншых рэспубліках Саюзу ССРР.

**„САВЕТЫ БЕЛАРУСІ“** зьяўляюцца трыбунай, дзе абгаварваюцца важнейшыя мерапрыманьні Ураду і практычныя прапановы мясцовых працаўнікоў пра спосабы палепшаньня савецкага апарату і яго працы.

Кожны савецкі працаўнік і актывісты, кожны чытач „Саветы Беларусі“ можа зьвярнуцца да Рэдакцыі часопісу з любым запытаньнем у галіне савецкага будаўніцтва, і праз часопіс або пісьмова атрымае адказ.

## ПАДПІСНАЯ ПЛАТА на 1931 год:

| | | | |
|---|---|---|---|
| на год | 2 р. 40 к. | на 3 месяцы | 60 к. |
| на 6 месяцаў | 1 „ 20 „ | паасобны нумар | 20 „ |

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Менск, Пляц Волі, 17—ЦВК БССР.**

Друкарня Кіраўніцтва Спраў СНК і ЭКАНА БССР. Заказ № 257—3000 экз. Галоўлітбел № 1428.